http://navinki.promedia.minsk.by

# НАВІНКІ

1 - 9 верасьня 2001 №9(47) Кошт свабодны

**9.09**
**спэцыяльны дадатак да газэты НАВІНКІ**

# ТУТ МАГЛА БЫЦЬ БЕЛАЯ ПАЛАСА*

* Напярэдадні выбараў некаторыя газэты выйшлі зь белымі плямамі замест матэрыялаў. Некаму зноў захацелася пагуляцца ў цэнзуру...

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс 63439. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@czavo.org; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 7.08.2001г., а 23.59. Тыраж 5000 кз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ПП «Мэджык», г. Менск, вул. Кнорына, 50. Заказ №744

# Як разумЕць

## (з пункту гледжаньня тэорыі жыдамасонскай змовы)

**...Паразу беларускай зборнай па футболу ад зборнай Украіны.**

Аўтар кнігі *Міт 20 стагодзьдзя* А.Розэнбэрг хутка ўжо як 70 гадоў таму адкрыў чалавецтву зенкі на заканамернасьці гістарычнага працэсу: дзяржава разьвіваецца па законах прыроды – бяз шуму і пылу, адным словам мірна. Калі адбылося нешта экстраардынарнае, кшталту завалу нацыянальнай зборнай адказнага матчу, гэта ўказвае на дзеяньне сілаў, якія супрацьстаяць натуральным законам. Крыніцай скверны, як правіла, зьяўляюцца юдзеі і масоны, якім не па нутру дабрабыт славянскіх народаў. Спорт таксама вобласьць вылазак змоўнікаў. Таму першае заданьне трэнэраў – не спартсмэнаў дрэсіраваць, а выкрываць і вынішчаць удзельнікаў варожых камплотаў. Бяз гэтага наіўна спадзявацца на перамогу. Так і паступіў трэнэр Малафееў, які правільна раскінуў мысьлёй пасьля паражэньня ад экіпы Украіны: калі зборная зьліла матч – значыць у ёй зьвілі гнёздышка агенты ворага. І сапраўды: дастаткова было пазбавіцца ад рэзыдэнтаў бандэраўска-масонскай агентуры Бялькевіча і Хацкевіча, як беларуская каманда трыюмфальна ўцерла нос палякам.

**...Адкрыцьцё ў Менску новай станцыі мэтро «Магілёўская».**

Вышэй было сказана, што, адпаведна ідэям антысэмітаў, ізраільскі дух заўсёды намагаецца падтачыць існуючае грамадзтва. Цудоўным прыкладам такой антыдзяржаўнай дзейнасьці зьяўляецца лёс старадаўняга Ізраэля, які дзеці Ізраіля амаль даканалі сваімі вылазкамі і правакацыямі. Не пакінулі яны сваіх плянаў і сёньня. Напрыклад, напярэдадні выбараў адбылося громкае адкрыцьцё ст.м. «Магілёўская». Афіцыйныя СМІ намагаюцца давесьці, што новая станцыя дапаможа вырашыць праблемы гарадзкой камунікацыі і руху інвалідаў па гораду. Для апошніх на станцыі створаныя спэцыяльныя ліфты. Аднак, прабачце, нашто інвалідам гэты супэрліфт, калі на іншых станцыях нічога падобнага не існуе? Калекам застаецца толькі тупа катацца па мэтро, каб выйсьці на той жа Магілёўскай. Відавочна, што прагоны пра сродак урбаністычнай камунікацыі – гэта хлусьня. Зазірнуўшы ў супэркнігу *Прātаколы сыёнскіх мудрацоў*, мы даведаемся, што мэтро — зброя расава чужых элемэнтаў. Як пішуць невядомыя аўтары бэстсэлеру, мэтро патрэбнае жыдамасонам, каб у адзін цудоўны дзень узарваць усе эўрапейскія сталіцы. Гэта і ёсьць сапраўднае прызначэньне ст.м. «Магілёўская». Адпаведна інваліды патэнцыйна становяцца тымі самымі падрыўнікамі-камікадзэ, якія, аднойчы спусьціўшыся ў менскі мэтрапалітэн, падкладуць бомбу пад форпост славянскай цывілізацыі.

**...Правядзеньне фэстывалю сэксуальных меншасьцяў Belarus Gay Pride'2001.**

Задума сусьветнай жыдамасонскай ложы ясная, як Стары Запавет. Тусьняк «галубых» Gay Pride быў намечаны акурат на самы разгар шырокамаштабных вайсковых вучэньняў «Нёман'2001». У той час, як армія «чырвонай рэспублікі» ўва ўсю пярдоліла войскі «сініх», у тылу «чырвоных» гаспадарыла пятая калёна «сініх» – «галубыя». Геі адкрыта праводзілі падрыўную работу, ператварыўшы гетэрасэксуальны тыл краіны ў Садом і Гамору. Стратэгічны вынік гэтай культурна-сэксуальнай дывэрсіі відавочны: у выпадку сапраўднай агрэсіі супраць Беларусі з боку сыяністцкай ваеншчыны ў асобе NATO, беларускія прызыўнікі будуць касіць на гомасэксуалізм замест таго, каб цьвёрда стаць на абарону славянскіх інтарэсаў. Адсюль можна зрабіць выснову, што педзікі, анархісты і інваліды – галоўныя ворагі баяздольнасьці беларускіх узброеных сілаў.

# Ганчарык – наш прэзыдэнт?

Што б там ні заяўляла Лідзія Ярмошына зь яе Цэнтарвыбаркамам, кшталту «Хутчэй рухне Пэнтагон, чым Ганчарык пройдзе ў другі тур», усё ж ёсьць падставы сьцьвярджаць, што на прэзыдэнцкіх выбарах пераможа менавіта адзіны кандыдат ад дэмакратычных сілаў. Доказам гэтаму можа паслужыць дасьледаваньне аднаго з выбарчых участкаў падчас правядзеньня датэрміновага галасаваньня, якое нібыта лакмусавая паперка можа адкрыць нам карціну асноўнага галасаваньня па ўсёй Беларусі.

Справа ў тым, што існуюць такія выбарчыя ўчасткі ці рэгіёны, галасаваньне на якіх дзіўным чынам супадае з агульнымі лічбамі па краіне. Напрыклад, у Расеі — гэта Краснаярск, у ЗША — штат Ілінойс, у Польшчы — Заглэмбе. У Беларусі такім месцам зьяўляецца закрыты ўчастак № 30 у Сьветлагорску, які месьціцца ў лячэбна-працоўным прафілякторыі. Наколькі гэты куток можна назваць люстэркам беларускага грамадзтва, электаральным эталёнам, мяркуйце самі.

Па-першае, Сьветлагорск – тыповы для нашай краіны невялікі горад, дзе жыве большасьць беларускіх выбаршчыкаў. Па-другое, кантынгент выбарчага ўчастку «Лясное» — пацыенты ЛПП, хворыя на эндэмічную для Беларусі хваробу – алькагалізм ці ў простанародзьдзі «смагу». Па-трэцяе, менавіта тут былі зафіксаваныя фэнамэнальныя супадзеньні з агульнарэспубліканскімі вынікамі выбараў або рэфэрэндумаў. І самае галоўнае: улады наўрад ці дадумаюцца фальсыфікаваць рэзультаты галасаваньня ў падобных месцах, як сьветлагорскі ЛПП! Якія яшчэ доказы патрэбныя?

Правёўшы незалежнае назіраньне за ходам датэрміновага галасаваньня на ўчастку №30, мы апыталі выбаршчыкаў, як яны галасавалі, і атрымалі наступныя лічбы, якія супалі і з пратаколам участковага выбаркаму:

за Гайдукевіча — 14,3%
за Ганчарыка — 47,5%
за Лукашэнку — 32,4%

Як бачна, сёньняшні лідэр згубіў папулярнасьць сярод сьветлагорскіх булдосаў і, адпаведна, і ўсяго беларускага народу. Ганчарык становіцца лідэрам перадвыбарчай гонкі, і другога туру не мінаваць. Калі ж афіцыйныя дадзеныя будуць адрозьнівацца ад эталёну хаця б на сотую долю працэнта, то нават сьляпому назіральніку з Казахстану будзе зразумелым, што без фальсыфікацыяў тут не абышлося ●

**М.Грыб,**
НЕЗАЛЕЖНЫ НАЗІРАЛЬНІК

Ю.М.Няпрынцаў. Адпачынак пасьля бою ў краіне Мальбара. 1955

# РЭАЛІЗМ КАПІТАЛІСТЫЧНЫ

Хто плаціць – той і замаўляе музыку. Гэты ўнівэрсальны прынцып капіталізму нашыя дзеячы культуры ўсьвядомілі задоўга да абвяшчэньня рынкавых рэформаў.

Раней, пакуль на творчую інтэлігенцыю лілася бюджэтная халява, а за іхнай дзейнасьцю сачылі статкі цэнзараў, прыдворныя беларускія мастацтвазнаўцы зь пенай на лычы даказвалі ўсяму сьвету, што сацрэалізм як мэтад і працоўныя будні калгасаў ды Вялікая Айчынная як тэма – зубры, на рогі якіх сама сабой і бяз мыла насадзілася ўся нацыянальная культура. Сёньня гарантаванага хаўчыка не хапае і млявая дэкадэнцкая багема краіны Шагала і Вішнёва гэтак жа шчыра раскатвае губу на фінансавую дапамогу разнастайных спонсараў і мэцэнатаў. Падварціла на гэтай ніве Нацыянальнаму мастацкаму музэю, які нядаўна падпісаў дамоўленасьць з British-American Tobacco Trading Company. Апошняя абяцае башляць музэю на розныя выставы, тэхніку, друкаваную прадукцыю і г.д. Наіўна думаць, што табачнікі праяў-ляюць такую шчодрасьць проста так, з-за любові да твораў Савіцкага альбо Сяўрука. Узгадваючы прапагандысцкую накіраванасьць беларускага савецкага жывапісу – «Даярак» Назаранкі альбо «Партрэт пагранічніка Ўладзіміра Бухалда» Сьвентахоўскага – нявольна пачынаеш задумвацца. Бо прапаганда сёньня – гэта рэкляма. Як тады будуць выглядаць творы беларускага жывапісу ў новых ідэалягічных умовах, калі музэйшчыкі яшчэ трошачкі адчэпяцца ад дзяржаўнай кармушкі і канчаткова затарчаць на ігле прыватных «папячыцеляў»? ●

# Порна – задорна

Пры Напалеоне французы заспэрмачылі ўвесь Стары Сьвет, яшчэ раней гішпанцы адмудохалі Новы, манголы Чынгіз Хана ўвогуле на пачатку мінулага мілéніюму аседлалі ўсю Азію... А што беларусы? Сядзелі па норах і нэўратычна калупаліся ў срацы.

Чаму ў шэрагах борзых нацыяў, імя якіх наганялі некантраляваны мандраж на ўсю айкумэну, не знайшлося месца нашчадкам будзінаў і нэўраў? Адказ на гэтае пытаньне кожны знойдзе ў кніжцы Гумілёва «Этнагенэз і біясфэра зямлі». Калі сьледаваць думцы вучонага, у нас, акрамя лейкіміі, хранічная праблема дэфіцыту пасіянарнай энэргіі. Палітычныя подзьвігі не магчымыя без затратаў канкрэтнай фізычнай энэргіі арганізмамі. Гумілёў лічыць, што яна існуе – біягеахімічная энэргія жывога рэчыва біясфэры (для дэбілаў гэта называецца проста пасіянарнасьць). Этнасу, які заражаецца пасіянарнасьцю, мора пакалена. Наадварот папуляцыя, якую Бог гэтай пасіянарнасьцю абдзяліў, пакутуе, зноў жа па Гумілёву, на «імпэратыў гамэастаза», які можна сфармуляваць наступным чынам: «сядзі і не пісьці». Дзе ж гэтую энэргію беларусам набыць? На жаль, прырода пасіянарнага імпульсу складаная: паспрабуй трапіць ў электрамагнітнае поле зямлі ў час выпрамяненьня з космасу. Апошні такі штуршок быў у Эўропе ў VIII стагодзьдзі. Таму нам нічога не сьвяціла, калі б не *Белорусская газета*. У 32 (298) нумары *БГ* у артыкуле «Порно-задорно» невядомы аўтар вывеў новы закон пасіянарнага штуршку: «колькасьць порнакасэтаў, якія бяруць напракат грамадзяне розных краінаў, паказвае, колькі энэргіі ёсьць ў парахаўніцах нацыі». Бывайце, флегма і рахманасьць! Застаецца легалізаваць прадукцыю з маркіроўкай XXX, і ўвесь цывілізаваны вырадзіўшы Захад какетліва-жыманна падзе ніц да берцаў задорнага беларуса.




Сьняданьне трактарыста. Уборачная 2001 г.

Аднак ня будзем сьпяшацца. Пакуль што вынаходніцтва *БГ* можна праверыць на калгасьніках: падчас уборачнай у рабочых перарывах круціць сялянам для ўздыму працоўнага аргазму стужкі Чычаліны і Джыны Ўілд. Калі тэмпы збору ўраджаю збожжа пойдуць угару, значыць тэорыя *БГ* працуе. Значыць будзе і ў нас порах у парахаўніцах, ягады ў ягадзіцах і г.д ●

**Гэта – мая сьпіна**





**Гэта – яго сьпіна**

**Гэта – мой электарат**



# Пра гандоны і тампоны

Напярэдадні выбараў у асартымэнце сталічных шапікаў зьявілася незвычайная навінка. Замест звыклых кожнаму аматару бясьпечнага сэксу «Дэлюксаў» і «Дызаераў» кітайскай вытворчасьці зь вітрынаў камкоў глядзіць пазнавальны лік кандыдата ў прэзыдэнты А.Р.Лукашэнкі. Надпіс на пакунку заклікае: «НАТЯНИ ЕГО». Калі вы думаеце, што гэта перадвыбарчая агітацыя самога Аляксандра Рыгоравіча, то вы жорстка памыляецеся. Аўтары гэтага «чорнага пі-ару» не пабаяліся падпісаць свой твор. Імі аказалася купка апазыцыйных моладзевых арганізацыяў, якія вырашылі падкурвіць бацьку. Але чым вы думалі, спадары дэмакраты, калі стваралі такі выбарчы крэатыў? Як паказалі першыя вынікі продажу «прэзікаў з прэзікам», гэтая навінка выклікае цалкам станоўчыя асацыяцыі з сэксуальным задавальненьнем, а самі прэзэрватывы – пачуцьцё бясьпекі і




абароненасьці. Сэкс-навінку ўжо па дастоінству аценілі прыхільнікі экзотыкі: «Ну што, мілая, якія сёньня возьмем?» – «Я хачу гэтыя, з вусікамі». Адпаведна, крывая колькасьці прыхільнікаў сёньняшняга рэжыму сярод сэксуальна актыўных грамадзянаў апошнім часам падымаецца ўверх. А вось калі б нашыя гора-піаршчыкі выпусьцілі з выявай Лукашэнкі тампоны, чаканы вынік быў бы дасягнуты: і асацыяцыя выключна непрыемная, з крытычнымі днямі і дыскамфортам, дый слоган добры: «ЗАСУНЬ ЕГО В...» ●




## Чаму не прыехаў Кадафі?

Беларускія аматары «Зялёнай кнігі» ў роспачы. Візыт лідэра Вялікай Лівійскай Народнай Арабскай Сацыялістычнай Джамахірыі таварыша Муамара Кадафі ў нашу краіну, намечаны на 30 жніўня, не адбыўся. Як нам патлумачылі ў МЗС РБ, прыезд важнага госьця быў адменены ў сувязі з «выбарчай кан'юнктурай». Гэта трывожны сыгнал, бо з такой кан'юнктурнай уладай, мы й бэн Ладэна ў Менску не дачакаемся.

# Дзень бабра

### *Распарадак дня саліднага бабра на 9 верасьня 2001 г.*

**9 верасьня – гэта чарговы выходны дзень – нядзеля, якая наступае адразу пасьля суботы. Як мусіць правесьці гэты дзень салідны бобр?**

**8:00 – Адбой.** Пасьля тыднёвай стаячкі на валюце на Жданах, пасьля прагулкі на крутой тачцы з карышамі па стомэтроўцы ды ўсяночнага гудзеньня зь цёлкамі на дзіскачы ў ДК МАЗ, салідны, але ў жопу бухі бобр павінен добра выспацца.

**15:00 – Пад'ём.** Бобр прачынаецца ад страшнага сушняку.

**15:30 – Дзённая тэлефонная сэсія.** Бобр робіць 10 тэлефонных званкоў сваім учорашнім сабутэльнікам. Ён нагадвае ім значнасьць паходу на бліжэйшую піўнуху, каардынуе зь імі свае пляны. Кожны тэлефонны званок заканчваецца фразай «Урэмя заліваць! Страляемся на піўняку!»

**16:00 – Паход на піўняк.** Бобр ідзе пахмяляцца. Лепш ісьці не аднаму, а з каткай пацаноў. Па дарозе на піўняк пытайцеся ў мінакоў. «Закурыць ёсьць, фля?» Калі яны адказваюць адмоўна, то патлумачце ім, што яны робяць няправільна. Калі шлях да вашай піўнухі кароткі, дык пайдзіце доўгай дарогай, каб настраляць паболей цыгарэт.

**16:30 – Сустрэча з «зубрам».** На шляху да апахмелкі ты сустрэў чалавека ў майцы з выявай зубра і слоганам «Время выбирать!», які пачынае чапляцца да цябе з пытаньнямі, ціпа: «Вы прагаласавалі?» Ні ў якім разе ня бі адразу яму ў рыла. Памятай, гэтых людзей надта мала, яны ўсе маладога ўзросту, пераважна яшчэ не атрымалі вышэйшую адукацыю. Як правіла, яны ідуць галасаваць на выбарчыя ўчасткі, каб падтрымаць свайго ўбогага выбраньніка. Таму паспрабуй яго разьвесьці на халяўнае піва ў буфэце.

**17:00 – Галасаваньне.** Перад тым, як «зубр» праставіцца півам, ён прапануе табе прагаласаваць. Вазьмі «зубра» з сабою ў кабіну для галасаваньня, каб той паказаў прозьвішча, насупраць якога табе трэба паставіць «пцічку». Калі ты гэта зробіш, то зубру дакладна не мінаваць праставону. Памятай, што гэтае прозьвішча зьнікне з тваіх мозгаў пасьля першай жа пляшкі піва.

**17:30 – Апахмел.** Пасьля галасаваньня адразу цягні зубра ў буфет і прасачы, каб той нармальна праставіўся. Скажы яму, што прывядзеш яшчэ пяцёх сяброў і хай зубр праставіцца па другому колу.

**18:00 – Дарога дадому.** Калі па дарозе сустрэнеш зубра, скажы яму, што ты ўжо прагаласаваў за Г., і той дасьць табе цыгарэту.

**18:30 – Вячэрняя тэлефонная сэсія.** Бобр робіць яшчэ 10 тэлефонных званкоў карыфанам ды кажа, што на выбарчым участку зубры нахаляву праставляюцца півам.

**19:00 – Дарога на сьвята.** Зьбірайся з пацанамі ды руш на Кастрычніцкую плошчу. Чым больш кампанія, тым больш неферaў можна пасьцяліць.

**20:00 – Дзыскацэка.** Гэта твой вечар, тваё сьвята. Ты чакаў гэтага дня цэлы тыдзень, каб паганяць на цэнтры валасацікаў.

**Ад таго, як мы пражывем гэты дзень, будзе залежыць, як мы будзем адчуваць сябе зранку** ●

## *ПамЫлкі пі-ару*

## Апазыцыя і дэзадарант

Ці ведаеце вы, што галоўнае ў гэтым сьвеце для беларускай апазыцыі? Перамагчы Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах? Памыляецеся. Галоўнае – пазбавіцца ад запаху поту. Як аказалася, апазыцыянэры пацеюць часьцей, чым прыхільнікі Лукашэнкі. Зьвярніце ўвагу на гэтае фота, надрукаванае ў агітацыйным буклеце адзінага кандыдата Ў.Ганчарыка. Колькі кропель сьмярдзючага мужчынскага поту трэба было праліць Лябедзьку, каб Домаш з Ганчарыкам дамовіліся пра адзінства сваіх дзеяньняў. А колькі яшчэ прыйдзецца папацець падчас усёй прэзыдэнцкай кампаніі?

Такі ён, наш дэмакратычны сьвет. Аднак гэта не падстава хадзіць ванючымі. Спадару Лябедзьку і ўсім дэмакратам варта параіць часьцей ужываць Mennen Speed Stick. Або проста галіць падмышкі ●




# Жывыя мерцьвякі

Паглядзеўшы на апазыцыйную мітусьню вакол мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай», разумееш, чаму штаб адзінага кандыдата прайграе па актыўнасьці камандзе Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

У сваёй выбарчай кампаніі нашыя ўлады змаглі адмабілізаваць ня толькі электарат прэзыдэнта, але й жыхароў патубаковага сьвету. Адчыняем спэцвыпуск расейскай *Правды*, прысьвечанай выбарам у Беларусі й чытаем там інтэрвію «Сын за отца», дзе папулярныя акторы Мікалай Яроменка старэйшы й малодшы заклікаюць галасаваць за бацьку. «Як жа так? – спытае чытач. – Яны ж памёрлі блізу года таму!» У тым і праявілася майстэрства прэзыдэнцкай каманды: жывых можа сагітаваць любы дурань, а вось са жмурыкамі будзе паскладаней. Карэспандэнту *Навінак* удалося знайсьці штатнага мэдыюма выбарнага штабу кандыдата ў прэзыдэнты Лукашэнкі. Ён нам распавёў падрабязнасьці сэнсацыйнага інтэрвію з сынам і бацькам Яроменкамі: «Ну, гэта, настроіў я свой саляр на кантакт з творчай інтэлігенцыяй. Прашу паклікаць каго-небудзь з нармальных людзей. А там лезе нейкі нацдэм з аўрай самагубцы й крычыць: «А хто там ідзе...», а далей неразборліва. Я яму кажу: «Што вы скажыце пра нашага прэзыдэнта?» А ён: «Галасуйце за Дом наш – Беларусь». Яжу ясна: не на таго нарваўся. Узяў я сотку на грудзі й зноўку ўвайшоў у транс, а там нейкая барада празь мяне пачынае вяшчаць: «Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі! Галасуйце за адзінага!» Ну, думаю, калі ў трэці раз не атрымаецца, то ня мой дзень. Але ж атрымалася. Як пачуў, што пачалі прамаўляць нармальным чалавечаскім языком – ад душы адлягло, сутаргі амаль спыніліся. Асыстэнтка пытае ў першага: «Як вы ставіцеся да Бацькі?» А ён: «Сын за отца». А другі працягвае: «А отец за Батьку». Так мы й запісалі інтэрвію з народнымі артыстамі Мікалаем Яроменкам-старэйшым і Мікалаем Яроменкам-джуніёрам» ●


Гэта – яго электарат

Гэта – яго рука


Гэта – мая рука

І ўсё такі мы разам!



# Як зьнікаюць апазыцыянэры

## альбо чатыры карысныя парады беларускім аматарам палітычнага кіднэпінгу.

Няма, напэўна, на тэрыторыі нашай краіны ніводнага плота або мура, якія б пладавітыя статкі «зуброў» не памецілі ўначы каравым графіці: «Дзе Завадзкі? Дзе Ганчар? Дзе Захаранка?». А сапраўды дзе? – пытаецца час ад часу беларускі абывацель, натыкаючыся на зуброўскі мэсэдж. «Дзе-дзе, кормяць апарышаў у магіле пад Бягомлем, расчлененыя лапаткамі спэцназаўца Паўлічэнкі», – аўтарытэтна сьцьвярджае нарадаволец Сярэдзіч. «Не фіга, – падрываецца ў адказ рэдактар саўбелкі Якубовіч, – жывёханькія гэтыя пакемоны. Разульваюць недзе па Багамах. А ўся гэтая каніцель з «прапаўшымі» для таго, каб скампрамэтаваць народны рэжым Лукашэнкі». Як яно ёсьць на самой справе, пакуль невядома, але што да зьнікненьня вядомых палітыкаў прывёў цягучы палітычны крызыс, які каштаваў апаратчыкам нэрваў і часу – відавочна. Каб вывесьці краіну з цайтноту, уладам і народу, па ўсім відаць, трэба было нэйтралізаваць галоўных апазыцыйных віноўнікаў паралічу рэформаў, якія сьмела праводзіць беларускі ўрад. Адзіны сродак у сытуацыі адсутнасьці падставаў да судовага перасьледу пачвараў – кіднэпінг, альбо скраданьне. Але вось як гэта якасна зрабіць, бульбашы напэўна ўяўляюць цьмяна. Адсюль – скандал. Міністру унутраных справаў як апошняму лашку прыйшлося шыбаваць у Бягомль, каб асабіста капаць траншэю, дзе паводле зьвестак апошняй відзастужкі гніюць дэмакратычныя жмурыкі. Каб перастрахавацца ад такога гемарою ў будучым, кіраўніцтву сінявокай рэспублікі трэба вырашыць: або не даваць падставы для наездаў, або, калі ўжо выкрадаць і мачыць прымадон апазыцыйнай сцэны, рабіць усё прафэсійна бяз пылу й шуму. Таму ёсьць сэнс зьвярнуцца да міжнароднага досьведу палітычнага кіднэпінгу, які можа даць процьму карысных і павучальных парадаў наконт таго, як правільна нэйтралізаваць гіпэрактыўных ці проста занадта цікавых дысыдэнтаў.

### 1. Палітычная антрапафагія.



Няма лепшага мэтаду для прыхільнікаў вяртаньня да слаўных звычаяў прашчураў і апалягетаў аўтэнтычнай нацыянальнай культуры. У беларускім кантэксьце мэтад набывае надзвычайную актуальнасьць у часы, калі на дзяржаўным узроўні адраджаюцца сярэднявечныя традыцыі «веча» (Усенародны сход) і архаічныя рытуалы масавага сьвяткаваньня збору ўраджаю (Дажынкі). На чарзе – дагістарычны канібалізм альбо, у простамоўі, антрапафагія. Багаты досьвед прымяненьня азначанай кулінарнай практыкі ў палітычных мэтах маецца ў Цэнтральна-Афрыканскай рэспубліцы. У часы кіраваньня прэзыдэнта Бакасы гарантам канстытуцыі было з апэтытам умятае за абедзьве шчакі каля сотні відных апазыцыйных дзеячоў. Смачна і Вам есьці, спадар Прэзыдэнт.

**Станоўчы аспэкт:** Узбагачэньне прэзыдэнцкага рацыёну і нацыянальнай кухні мясцовымі экзатычнымі блюдамі (Напр.: філе Домаша пранага пасола, фаршыраваны Шчукін па-флоцку, тэстыкулы Ганчарыка адварныя з вэрмішэльлю, востры Гайдукевіч па-ўсходняму з курагой і разынкамі і г.д.); рэнтабэльнасьць, бо зьнікненьне апазыцыянэраў будзе спрыяць выкананьню дзяржаўнай харчовай праграмы на 2001-2006г.

**Недахопы:** Немагчымасьць выкрыстньня падчас вялікага посту ці раптоўнага пераходу дыктатара да вэгетарыянства; верагоднасьць наяўнасьці губкавага энцэфаліту («кароўе шаленства») і яшчура сярод тых апазыцыянэраў, хто доўгі час пражываў альбо праводзіў сэмінары на Захадзе; неабходнасьць вымочваньня ў воцаце найбольш жорсткіх апазыцыянэраў.

### 2. Распушчальны апазыцыянэр.




Мэтад прыйдзецца да спадобы ўсім кіслотнікам і маладым дыктатарам у стылі тэхна. Вынайдзены экспэрымэнтальным шляхам (на курдах) ірацкім дыктатарам Садамам Хусэйнам. Сутнасьць прыёму ў тым, што выкрадзенага апазыцыянэра памяшчаюць у сасуд зь едкай вадкасьцю, пераважна салянай або сернай кісьлаты. Аб'ект кіднэпінгу звычайна рэагуе распадам фізычнага цела на дробныя малекулы і атамы арганічнага рэчыва.

**Станоўчы аспэкт:** У выніку экзэкуцыі дасягаецца 100% палітычная лаяльнасьць аб'екту; адсутнасьць сьлядоў выключае пілігрымкі да магчымых месцаў пахаваньня; у эпоху НТР спрыяе фармаваньню прагрэсіўнага іміджу дыктатуры, чым прыярытэтам зьяўляецца «стымуляваньне інвэстыцыяў па ўнядрэньні дасягненьняў навукі». (*СБ* №255).

**Недахопы:** У сьвятле праблемаў беларускай хімічнай прамысловасьці (прыватызацыя на карысьць расейскіх алігархаў, тэхамартызацыя і г.д.) цяжка пабудаваць новы спэцыялізаваны завод па якаснай перапрацоўцы выкрадзеных апазыцыянэраў. Неабходныя заходнія інвэстыцыі.

### 3. Палёт сьмерці.



Мэтад для сапраўдных рамантыкаў і проста дыктатараў з добрым сэрцам. Быў вынайдзены і запатэнтаваны аргентынскай хунтай у 1976 годзе. Апазыцыянэраў і іхных дарослых сваякоў безбалюча скідвалі з самалётаў у мора, а малалетніх дзяцей гуманна разьмяркоўвалі па сем'ях афіцэраў спэцслужбаў, што ўдзельнічалі ў экзэкуцыях.

З падзеньнем дыктатуры ў 1983 годзе дэмакратамі не было знойдзена практычна ніводнага рэштка, ніводнай улікі якогасьці кіднэпінгу. Вядома, потым вайскоўцаў асудзілі і пасадзілі, але зусім па іншых артыкулах Крымінальнага кодэксу Аргентыны. Краіна атрымала першыя сьведчаньні аб «палётах сьмерці» толькі ў 1995 годзе, праз пяць гадоў пасьля таго, як удзельнікаў хунты благапалучна амніставалі.

**Станоўчы аспэкт:** Няма сьлядоў забойства; карнікі-ўсынаўляльнікі пэрсанальна зацікаўленыя захоўваць маўчаньне, нават калі ім абяцаюць амністыю; у выніку выкрыцьця часта здараецца, што ўсыноўленыя і выхаваныя «гэбэшнікамі» дзеці апазыцыянэраў выступаюць у абарону сваіх прыёмных бацькоў.

**Недахопы:** Праблемы з пошукам у Беларусі адпавядаючага апэрацыі вадаёму; недахоп дасьведчаных авіятараў сярод служачых беларускага СОБРа; грувасткая працэдура ўсынаўленьня.

### 4. Інтэнсіўнае перавыхаваньне.




Знаходка для цывілізаванай дыктатуры ў цэнтры Эўропы! Мэтад – прадукт сумеснай працы амэрыканскіх (ЦРУ) і гватэмальскіх (дыктатура 1960-96г.) спэцыялістаў. Апазыцыйныя дзеячы выкрадаюцца ў мэтах іх далейшай ідэалягічнай канвэрсіі. Падчас «халоднай вайны» Гватэмала служыла лябараторыяй для экспэрымэнтаў амэрыканскіх спэцслужбаў у вобласьці распрацоўкі псыхалягічнай зброі. У якасьці паддосьледных пацучкоў выкарыстоўваліся апазыцыйныя каталіцкія сьвятары, якія сымпатызавалі партызанам (адэпты г.зв. «тэалёгіі вызваленьня»). Хрэстаматыйны прыклад – «справа Пэлесэра».

У адзін прыгожы чэрвеньскі дзень 1981 году трыдцаціпяцігадовага езуіта Луіса Пэлесэра Фаэна, вядомага ў краіне сваёй грамадзкай і праваабарончай дзейнасьцю, стапарнулі на звычайным сталічным сьветлафоры. Выцягнуты з свайго джыпу «чырокі», ён бясьсьледна зьнікае. Але, 30 верасьня 1981 году, на дзіва ўсёй краіне, Луіс Пэлесэр чароўным чынам зьяўляецца для тэлевізійнай прэс-канфэрэнцыі побач з тагачасным міністрм унутраных справаў. Румяны і давольны, некалі апазыцыйны, езуіт пачынае ліць фіміям па адрасу ўладаў, характарызуючы сваё зьнікненьне як «аўта-кіднэпінг», які дапамог яму – скаціне заблудшай і пачвары недастойнай – стаць на шлях ісьцінны.

Як адзначыў пазьней адзін з афіцэраў гватэмальскіх спэцслужбаў Франсыска Артэга Мэнальда, чароўнае ператварэньне сьвятара было дасягнутае наступным чынам: «Псыхолягі-каты клясычна падзяляюцца на «жорсткіх» і «добрых». Па кантрасту, ад апошніх пацыент звычайна трапляе ў псыхалягічную залежнасьць, што аблягчае працэс унушэньня патрэбнай новай ідэалёгіі. Вось рэзюмэ курсу: катаваньні, ласкавае абыходжаньне, зноў катаваньні, потым лекцыі і прапаганда; трэнінг на ўсваеньне новай ідэалёгіі; нарэшце, пэрыяд узмоцненага і абільнага харчаваньня і шмат чалавечай цеплыні ў адносінах да пацыента. (...) Карысна таксама ўжываньне наркотыкаў і псыхатропных прэпаратаў (пэнтатал)...»

Інфармацыя ўсплыла толькі пасьля дэмакратызацыі ў краіне. Але і тады асудзіць аўтараў катаваньняў аказалася надзвычай цяжка, бо... ахвяра адначасова ёсьць і яе няма. Той самы езуіт Пэлесэр зараз знаходзіцца на заслужанай пэнсіі. Ён ажаніўся, абраўшы пры гэтым у якасьці вясельнага сьведкі палкоўніка спэцслужбаў. Больш таго, ён сьвядома і самааддана працягвае працаваць на сваіх былых катаў, штомесяц выступаючы на міжнародных канфэрэнцыях з выкрыцьцём «зьверстваў» апазыцыі і дыфірамбамі «чалавечнасьці» ўладаў. Нам бы гэтак!

**Станоўчы аспэкт:** Безадходнасьць (апазыцыянэр свабодна і цалкам канвэртуецца ў лаяльнага грамадзяніна); выдатна падыходзіць для дыктатуры, якая зьбіраецца ўступіць у Раду Эўропы, бо ліквідацыя апазыцыі праходзіць у адпаведнасьці з эўрапейскім патрабаваньнем аб скасаваньні сьмяротнага пакараньня; стымулюе разьвіцьцё айчыннай пэдагагічнай навукі, псыхіятрыі і фармацэўтычнай прамысловасьці.

**Недахопы:** НЯМА!!

Такім чынам, разумней і прасьцей было б не пускаць кішкі Ганчару і Ко, а паказаць іх у праграме «Добрай раніцы, Беларусь» зь лекцыяй «Лукашэнка – адзіны магчымы выбар»●

**Георгі Гангадзэ**

## ДЫЯЛЁГІ ПРА ЖЫВЁЛ

# Кот, які гуляе сам па сабе



*Па якім шляху ідзе разьвіцьцё эканомікі лукашэнкаўскай Беларусі? З гэтым пытаньнем мы зьвярнуліся да вядомага фэлінoляга Барыса Кагарліцкага.*

**Што ўяўляе сабой беларускі рэжым з гледзішча эвалюцыі сацыяльнай базы, якая прырода ягонай сацыяльна-эканамічнай палітыкі? Гэтае пытаньне дасюль застаецца адкрытым. Мы маем або зюганаўскую сацыял-патрыятычную вэрсію, якая бачыць у асобе Лукашэнкі апошняга савецкага лідэра, або бярэм на веру амаль усё, што гаворыць лібэральная прэса.**

Першым ударам па беларукай мурцы стаў крах расейскага рубля ў жніўні 1998 г. (г.зв. дэфолт).

***

***– Што ўяўляе сабой на ваш пункт гледжаньня беларуская мадэль?***

Праблема ў тым, што адсутнічае сур'ёзная дыскусія на тэму, якая прырода гэтага рэжыму, якія падставы яго стабільнасьці, якія прычыны яго канфлікту з Захадам і г.д. Беларускі досьвед 90-ых гадоў велімі цікавы, бо ён ня мае нічога агульнага з сацыялізмам, аднак у той самы момант гэты досьвед прынцыпова адрозьніваецца ад нэалібэральнай мадэлі разьвіцьця Расеі і іншых краін СНД. Лукашэнка адзіны ва Ўсходняй Эўропе, хто паспрабаваў аднавіць мадэль Паўднёвай Карэі.

***– Што гэта значыць, паўднёвакарэйскі варыянт па-беларуску?***

Вы маеце дыктатуру, аднак дыктатуру адносна некарумпаваную, з жорсткімі правіламі. Яна мае дастаткова эфэктыўны паліцэйскі рэжым, які супрацьстаіць крыміналізацыі грамадзтва. Гэта кампэнсуецца адноснай стабільнасьцю і сацыяльнымі гарантыямі. Адначасова існуе дысцыплінаваная, пакорная, кваліфікаваная рабочая сіла – тое, што ў эканоміцы называецца канкурэнтная перавага. Аднак гэта ні ў якім разе не савецкая мадэль, бо гэта мадэль у большай ступені арыентаваная на зьнешнія рынкі. І вось, Беларусь выходзіць на зьнешні рынак як экспарцёр недарагой прадукцыі, якая можа рэалізовоўвацца на рынках Трэцяга Сьвету і часткова ў нейкім сэктары рынку на Захадзе. У такім выпадку вы пачынаеце прадаваць тавар за кошт таннага экспарту. Вы атрымліваеце з аднаго боку рэальны рэпрэсіўны рэжым, з другога эканамічны ўздым. Калі глядзіш на дынаміку разьвіцьця Паўднёвай Карэі або РБ, усё падаецца класным. Аднак калі паглядзіш на гэта вачыма паўднёвакарэйскага альбо беларускага працоўнага, сытуацыя здаецца не такой ужо і добрай. Каб падтрымаць танныя кошты на беларускія тавары, Лукашэнка вымушаны стрымліваць рост заработнай платы.

***– Чаму ж тады Лукашэнка пасварыўся з Захадам? Хіба паўднёваазіяцкія «тыгры» сруцца зь Дзядзькам Сэмам?***

Гэтая мадэль паставіла Лукашэнку ў канфлікт з Захадам таму, што яна супярэчыць рэцэптам МВФ. Лукашэнкаўскае выпаданьне з заходніх мадэляў мае аб'ектыўную прыроду. Беларусі няма чаго прапанаваць Захаду. Таму альтэрнатывай лукашэнкаўскай сыстэме ў Беларусі на пачатку 90-ых быў бы прамысловы крах, як ва Ўкраіне. Аднак за апошнія гады беларускі рэжым пачаў драматычна эвалюцыянаваць і адыходзіць ад паўднёваазіяцкай схемы. Па-першае, безумоўна паўтарыць досьвед Паўднёвай Карэі Лукашэнку не ўдалося. У Паднёвай Карэі на нейкім этапе адбывалася тэхналягічнае абнаўленьне і разьвіцьцё ўнутранага рынку. Беларусь на гэты этап яшчэ ня выйшла або ўвогуле ня выйдзе. «Тыгр» з рэжыму Лукашэнкі не атрымаўся. Атрымалася вялікая аблезлая кошка, якую хутка пачалі драць як Эмануэль.

***– Чаму ж Лукашэнкаўская мадэль правалілася?***

Першым ударам па беларукай мурцы стаў крах расейскага рубля ў жніўні 1998 г. (г.зв. дэфолт). Гэта зьвязана з тым, што Расея была і застаецца для Беларусі асноўным зьнешнім рынкам. Трэба дадаць, што тут існуюць тры сасны, у якіх заблукалі лібэральныя і «камуністычныя» эканамісты, якія лічаць, што інтэграцыя Беларусі з Расеяй азначае рэстаўрацыю Савецкага Саюзу. Сапраўды ёсьць яшчэ старыя тэхналягічныя ланцужкі, аднак яны працуюць па прынцыпу прыбытку, які ня мае нічога агульнага з савецкай мадэльлю.

Расея – адзін з самых буйнейшых рынкаў Усходняй Эўропы, на які была завязаная эканоміка Беларусі. У выніку краху рубля ўпаў замежны імпарт, а па-другое, сама Расея пачала праводзіць палітыку імпаратазамяшчэньня. Заработная плата ў Расеі ўпала, і зінізіўся ня толькі імпарт у Расею з Францыі або Нямеччыны. Экспартна-арыентаваная мадэль Беларусі таксама апынулася ў крызысе. Патрэбна было шукаць новыя варыянты. Перш за ўсё трэба было знайсьці інвэстыцыі для таго, каб кампэнсаваць правалы на зьнешніх рынках за кошт нейкіх фактараў росту, напрыклад, падняць якасьць прадукцыі. Гэта быў структурны крызыс беларускга рэжыму.

***– Як Лукашэнка зьбіраецца выкарасквацца з эканамічнага анусу, у які ён трапіў?***

Лукашэнка як дыктатар заўсёды мае альтэрнатыву старой палітыцы: гэта – змова з глябалізаваным капіталам, аднак на сваіх умовах. Іншымі словамі, Лукашэнка здольны дыктаваць нейкія ўмовы транснацыянальнаму капіталу, які прыходзіць у Беларусь.

Захад бачыць, што Лукашэнка – гэта сур'ёзна, хаця ёсьць розьніца паміж амэрыканскім і эўрапейскім падыходамі. Паколькі ў «янкі» няма лякальных эканамічных інтарэсаў у Беларусі, яны будуць упарта працягваць старую дагматычную лінію і фінансаваць палітычную апазыцыю.

Што датычыцца Эўропы, то яе стаўленьне да Лукашэнкі мяняецца. Гэта бачна, напрыклад, з інтэрвію Статкевіча нямецкаму *Der Spiegel*, дзе ён скардзіцца на сквалыжнасьць бундэсфундатараў. Гэта не выпадкова. Пачынаецца новы этап, этап змовы паміж нованароджанай беларускай элітай і транснацыянальнымі інвэстарамі, аднак на ўмовах, якія задавальняюць беларускі істэблішмэнт. Рынкі будуць адчыняцца, прадпрыемствы выстаўляцца на аўкцыён. Аднак кантрольныя рычагі застануцца ў старой бюракратыі. У асноўным капітал будзе расейскім. Пры гэтым расейскія бізнэсмэны – малодшыя партнёры Захаду, і транснацыянальны капітал будзе прыходзіць у Беларусь праз Расею. Беларускі рынак вельмі атрактыўны для інвэстараў: ніякіх забастовак, ніякіх палітычных крызысаў. іншымі словамі, тое, пра што марыла апазыцыя – прыватызацыя і эканамічная свабода – будзе зробленае рукамі Лукашэнка і расейскіх кампаніяў.

***– Ці будуць мяняцца правілы гульні?***

На маю думку, гэта пагражае рымэйкам казахстанскага варыянту капіталізму. У Беларусі буйнога бізнэсу няма. Ёсьць мясцовая намэнклятура, якая працуе з транснацыяналамі. Бізнэсам кіруюць недзе ў штаб-кватэры карпарацыі, аднак усе палітычныя рычагі манапалізаваны мясцовай намэнклятурнай вярхушкай, якія стабільна атрымліваюць сваю долю прыбытку. У нейкі час транснацыяналам, якія прыйдуць у Беларусь, будзе неабходнае сваё палітычнае лобі. Пры гэтым цалкам магчымы ўзаемавыгодны кампраміс паміж транснацыянальным капіталам і мясцовымі князькамі. У лоне апарату намалюецца нейкі лібэральны нашчадак Лукашэнкі, які атрымае бацькоўскае благаслаўленьне і стане новым прэзікам. Наступіць нейкая дэкаратыўная дэмакратыя накшталт былога рэжыму мэксыканскай інстытуцыйна-рэвалюцыйнай партыі. Можна будзе праводзіць лав'-парады і іншыя підарскія вечарыны, аднак рэпрэсіўная практыка лукашэнкаўскага рэжыму будзе захаваная.



Лукашэнка... мае альтэрнатыву старой палітыцы: гэта – змова з глябалізаваным капіталам

***– Ці могуць падзеі ў сьвеце зрэзаніраваць на падзеі ў Беларусі?***

У гэтым прагнозе ёсьць адна праблема. Ён праканае, калі нічога прынцыпова драматычнага не адбудзецца ані ў Расеі, ані ў Эўрасаюзе. А нешта можа здарыцца. Першае – на гарызонце сусьветны эканамічны крызыс. Крызыс пачаўся ў ЗША, зараз ён дасягнуў ЭС, і нарэшце, як чакаецца, дасягне Расеі. Як пастаўшчык сыравіны на Захад, Расея перажыве вельмі моцны шок недзе вясной наступнага году. Гэты крызыс можа быць абсалютна іншым, чым крызыс пачатку 90-ых. У Расеі ідэалягічна вычарпаны ўсе лёзунгі, якія дамінавалі на працягу 90-ых. Лібэралізм дыскрэдытаваў сябе пасьля памятнага дэфолту, камунізм вычварыў Зюганаў, а нацыяналізм дыскрэдытуе сам Пуцін. Апазыцыя Яўлінскага вельмі імпатэнтная. У гэтым пляне ўзьнікаюць падставы для новых сацыяльных рухаў.

***– Што могуць рабіць беларусы ў такіх умовах?***

Неабходна змагацца з дыктатурай, цудоўна разумеючы, што адзінай альтэрнатывы ня можа быць. Гаворка ня йдзе пра агульныя дэмакратычныя правілы – выбары, свабода прэсы і г.д. – тут усё заразумела. Аднак рэальна перамены ніколі не бываюць чыста тэхнічнымі. Зьмена рэжымаў можа суправаджацца працэсамі рэзкай сацыяльнай дэградацыі. Пытаньне – ці значыць сацыяльная дэградацыя адначасова стан высокай дэмакратычнай свабоды. Пасьля кароткай дэмакратычнай інтэрлюдыі сацыяльны клімат рэзка пагоршыцца. Падтрымліваць парадак прыйдзецца такімі ж таталітарнымі сродкамі з арсэналу Лукашэнкі. У выніку ўзьнікне тая ж форма праўленьне – дыктатура, толькі зь іншай палітычнай афарбоўкай.



«Тыгр» з рэжыму Лукашэнкі не атрымаўся. Атрымалася вялікая аблезлая кошка, якую хутка пачалі драць як Эмануэль.

***– А якім можа быць альтэрнатыўны Лукашэнку праект?***

Іншы дэмакратычны праект можа прадставіць той, хто адстойвае дэмакратычныя правы пасьлядоўна, бароначы іх як ад Лукашэнкі, гэтак і ад патэнцыйнай узурпацыі дэмакратыі нэалібэральнымі, нацыяналістычнымі, хрысьціянскімі і іншымі фундамэнталістамі. Трэба ўлічваць усе магчымыя сцэнары ●

Размову вёў
**Леапольд Ушкін**

# Na... Дзядзь...

*шлях веда... страдаро...*

У першых чыслах верасьня 2001 году нас, студэнтаў філязофскага факультэту сельскагаспадарчай акадэміі, закінулі на практыку ў саўгас «Шлях да Ікстлану» Старадароскага раёну. Падзеі, якія тут апісваюцца, пачаліся тады, калі мы ўсім курсам засяліліся ў будынак сельскай бібліятэкі імя Адама Глёбуса і адправіліся ў вёску па сівуху. Раптам мясцовы настаўнік, які служыў нам гідам па мясцовых кропках, падвёў мяне да аднаго старога хрэна, які, па ягоных словах, шарыць у напоях. Я спытаў, дзе можна дастаць славутай старадароскай барматухі. Ён (як высьветлілася, яго завуць Іванам) паглядзеў на мяне мутнымі вачыма, моўчкі ўстаў і пайшоў. Я быў вельмі расчараваны, што не дастаў сэму. Хутка даведаўся, дзе жыве Іван і некалькі разоў заходзіў да яго. Нарэшце ён пранікся да мяне даверам.

Аднойчы мы раздавілі штоф, і ён прызнаўся мне, што валодае нейкай таемнай ведай, а я – выбраны, і таму ён абраў мяне вучнем. Я пачаў сваё настаўніцтва ў Івана, аднак праз тыдзень адмовіўся ад навучаньня і зараз распавяду чаму.

З самай першай сэсіі я зразумеў, што ў Івана ёсьць свая мэтадалёгія – напіцца сэмам да чорцікаў. Для ягонага выробленьня ў ход ішлі тры інгрэдыенты: чарот, лапухі і дзядоўнік. Беларусы задоўга да сустрэчы з эўрапейцамі даведаліся аб галюцынагенных якасьцях самагонкі. Прымянялі гэтыя сродкі для лячэньня бадуна і ўваходу ў стан запою. Сэнс п'янкі заключаўся для дзядзькі Івана ў тым, каб дасягнуць адмысловага стану ўспрыняцьця і набыцьця звышнатуральнай сілы. «Ёсьць рэчы, якія могуць паказаць будычыню,» – сказаў ён, дастаўшы трохлітровы слоік, напоўнены мутным зеленаватым плынам, які таямніча зіхацеў пры сьвятле поўні. Напоўніў шклянку. Злавесна зарагатала кугаўка. Праляцеў кажан. «Гэта трэба піць бяз закусі». Я закінуў зьмесіва шклянкі проста ў рот. Працэдура паўтарылася, пакуль слоік не апусьцеў. Мы ўсталі і пайшлі шукаць цёлак і завязак. Калі выйшлі на цэнтральную плошчу я зразумеў што напой перанес мяне ў іншае месца... Гэта быў Менск, пляц перад цэнтральным МакДональдсам, на дзьвярах якога вісела цыдулка «Ўваход толькі па прапусках». Вахцёр Рональд у касьцюме лыжніка з шэўронам «Эскадрон сьмерці РБ» ашарашыў мяне навінай, што сталавацца ў рэстаране могуць выключна супрацоўнікі МУС і КДБ. Апошняе, што я бачыў, быў боль. Памяць нечакана вярнулася да мяне, і я пабачыў, што ляжу ў бурштыновых зарасьцях лапушатніку пад клюбам. У роце быў сушняк. Я падняўся і пайшоў шукаць свайго сэнсэя, якога пашчасьціў спаткаць на бульбяным полі. Пачуўшы пра маё апавяданьне, ён зарагатаў і сказаў, што ў наступны раз я павінен карыстацца «іншым бачаньнем». Дзеля гэтага трэба глядзець не на прадметы, але на іхныя цені, бо самі рэчы гэтага сьвету – толькі цені сапраўднай, адмысловай рэчаіснасьці. Я дастаў нататнік і пачаў мітусьліва натаваць. Дзядзька Іван зноў зарагатаў і сказаў, што ніколі ня бачыў большага ідыёта і спытаў, ці не пішу я для газэты *Навінкі.* Вельмі хутка надышоў наступны сэанс. Іван прынес з сабой чайнік зь нейкай субстанцыяй, якая пахла «Комэтам». Я аўтаматычна пачаў яе глытаць, нягледзячы на страшэннае сьвідраваньне ў гартані. Адчуў хвалю незвычайнай сілы, пабег на поле і пачаў зьбіраць каларадзкіх жукоў. Раптам яны вырасьлі памерам з зуброў і зараўлі: «Жукі не жывуць у няволі!» У наступны час мой мозг счапіўся ў вогненную сьпіраль.

Гэта была тая самая пляцоўка каля Мака, аднак на гэты раз я рухаўся па іншай траекторыі. Адзіным арыенцірам, які падказваў, што я ў Менску, быў добры стары Мак. Усё астатняе зьлілося ў чэзлую шэрань. Як конік, да мяне падскочыў заліты сонечным сьвятлом

9.09

спэцыяльны дадатак да газэты НАВІНКІ

# Выбар ці маніпуляцыя?

Як наступства народных рэвалюцыяў апошніх пару стагодзьдзяў амаль усе нацыянальныя эліты павінны гэтак ці йнакш прыняць дэмакратычную легітымацыйную тэорыю ўлады. Іншымі словамі, вызнаць, што могуць кіраваць краінай толькі калі маюць «санкцыю народу». Санкцыю, якую магчыма атрымаць выключна на выбарах. Калі той жа Лукашэнка як нейкі сярэднявечны фэадал заявіць, што ён кіруе народам, бо ён памазаньнік Бога на Беларусі, гэта будзе поўным анахранізмам. Вызнаючы дэмакратычную тэорыю легітымацыі, Канстытуцыя кожнай рэспублікі спасылаецца на тэорыі эпохі Асьветы 18 стагодзьдзя. Прэзумпцыя тэорыі легітымацыі палягала ў тым, што выбаршчык А, прагаласаваўшы за Б, перадае яму нейкую частку самога сябе. Гэтая частка як лічынка імплянтуецца ў цела Б і вызначае яго паводзіны падчас тэрміну выкананьня дэпутацкіх паўнамоцтваў. Нажаль, легітымацыйная тэорыя, выпрацаваная падчас Француская рэвалюцыі на аснове антычнай традыцыі дэмакратыі, ня здольная была ўлічыць гістарычныя перамены.

У старадаўняй Грэцыі дэмас, вольнае насельніцтва невялікага полісу, дабраахвотна зьбіраўся на сходы каб выбраць чалавека, якога добра і даўно ўсе ведаюць асабіста. Кандыдаты павінны былі быць вядомымі выбаршчыкам задоўга да пачатку выбараў. Гэта працэдура заснаваная на прынцыпе асабістага веданьня кандыдатаў моцна адрозьніваецца ад сучасных правілаў гульні. Уявіце, што на вуліцы да вас падыходзіць незнаёмы чэл у акулярах і кажа: «Пазычце мне грошай, бо ў мяне ёсьць праграма стратэгіі ўстойлівага эканамічнага разьвіцьця». Відавочна, што пашлеце яго на хер, аднак калі б на яго месцы быў бы ваш калега, то вы б задумаліся і нават магчыма далі б бабла да аўторка. У выніку, у рэальнасьці мы маем не сьвядомае дэлегаваньне чалавека чалавеку сваіх правоў на барацьбу за яго інтарэсы, але барацьбу кандыдатаў за месца ў крэслах, якая заключаецца ў тым, каб атрымаць як мага болей галасоў электарату.

Перш за ўсё гэта значыць рабіць выбаршчыка. Гэтым і займаюцца цэлыя прафэсійныя групы спэцыялістаў, заданьне якіх тэматызаваць тэрмін «выбаршчык» сярод насельніцтва. У 1972 годзе францускі сацыёляг Бурдзье выдаў кніжку *Грамадзкай думкі няма*, дзе давёў, што ўдзельнікі

Працяг за стар. 9

# ЧАС ВЫБІРАЦЬ! 9 ВЕРАСНЯ

## «От добра добра не ищут»

***РАЗАМ***

***За моцную і квітнеючую Беларусь!***

*(Перадвыбарчая праграма Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі)*

**Дарагія суайчыньнікі! Сябры!**

Усебакова выверaная і навукова абаснаваная стратэгія будучай беларускай дзяржавы вызначаная ў Праграме сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця Рэспублікі Беларусь на 2001-2005 гады, прынятай другім Усебеларускім народным сходам. Мэты – рэзкае павышэньне дабрабыту народа і прыбліжэньне яго да ўзроўню эканамічна разьвітых эўрапейскіх краін шляхам паступальнага, эвалюцыйнага руху наперад, аснаванага на палітычнай і сацыяльна-эканамічнай стабільнасьці грамадзтва.

**Гарантыі беларускаму народу**

Улада заўсёды будзе слухаць і чуць народ. Бязьлітасная барацьба з карупцыяй, чванствам, хамствам, кумаўством і «сямейнымі» кланамі будзе ўзмоцненая. Крымінал ніколі не прарвецца ва ўладу! «Зламаць» дзяржаву, абрабаваць народ не атрымаецца!

1.Выкананьне асноўных канстытуцыйных правоў і свабод чалавека: права на жыцьцё, права на працу, права на абарону ад незаконнага ўмяшальніцтва ў прыватнае жыцьцё, права ўласнасьці.

2.Вярхоўнасьць права і роўнасьць усіх грамадзян перад законам.

3.Прамы дыялёг з чалавекам. Прыняцьце асноўных рашэньняў стратэгічнага разьвіцьця краіны толькі праз раду з народам.

4.Свабода веравызнаньняў. Кожны чалавек мае права абраць сваю дарогу да храму. Нікому ня будзе дазволена навязаць грамадзянам Беларусі тую ці іншую веру!

5.Свабода слова. Кожны чалавек мае права на ўласнае меркаваньне, ён таксама будзе мець права свабодна і без абмежаваньняў яго выказваць. Усялякія спробы «заткнуць рот» грамадзяніну будуць прыпыняцца!

6.Праца. Захаваньне і падтрымка эфэктыўна працуючых прадпрыемстваў – галоўныя гарантыі захаваньня працоўных месцаў. У Беларусі кожны малады чалавек мае і будзе мець права першага працоўнага месца.

7.Падтрымка састарэлых, чалавека ў бядзе, павага да вэтэранаў і пэнсіянэраў. Будзе забясьпечаная справядлівасьць у разьмеркаваньні бясплатных лекаў для інвалідаў і хранічна хворых.

8.Адукацыя. Кампутары і інтэрнэт – у кожную школу, у кожную ВНУ. Таленавітыя школьнікі і студэнты будуць і надалей атрымоўваць успамогу праз спэцыяльныя фонды Прэзыдэнта.

9.Мэдыцынскае абслугоўваньне. Будзем аказываць бясплатную мэдыцынскую дапамогу людзям, а таксама ўкараняць новыя формы аховы здароўя, што зарэкамэндавалі сябе ў сьвеце.

10.Барацьба з алькагалізмам, курэньнем, наркаманіяй – галоўнымі выклікамі XXI стагодзьдзя. Спорт будзе абавязковай умовай жыцьця людзей.

11.Сувэрэнітэт і незалежнасьць. Гэтае дастаяньне народу ня можа быць пастаўленае пад сумнеў нікім і ніколі. Нашы дзеці і ўнукі будуць жыць у незалежнай Беларусі, а беларускі народ будзе сам вызначаць свой лёс.

**Дзеля квітненьня роднай Беларусі мы разам з вамі зрабілі шмат! Я ўпэўнены: мы зробім значна болей!**

**Ваш Аляксандар Лукашэнка**




## «Пришло горе, за ним – другое»

***ПААСОБКУ***

***За хілую і загніваючую Беларусь!***

*(Перадвыбарчая праграма адзінага кандыдата ад аб'яднанай апазыцыі У.І.Ганчарыка)*

**Ненавісныя суайчыньнікі! Казлы!**

Аднабакова выдуманая і па-шарлатанску абаснаваная тактыка беларускай дзяржавы, у якой няма будучыні, навязана Праграмай сацыяльна-эканамічнага заняпаду РБ на 2001-2005 гады, аблаянай першым і апошнім Элітарным антынародным шабашом.

Мэты – рэзкі рост галечы народу і прыбліжэньне яго да ўзроўню эканамічна адсталых афрыканскіх краінаў шляхам гвалтоўнага, рэвалюцыйнага скачку назад, заснаванага на палітычным і сацыяльна-эканамічным хаосе ў грамадзтве.

**Беларускаму народу ніякіх гарантыяў**

Улада будзе глухая і сьляпая да любых просьбаў і чаяньняў народа. Паўсюднае насаджэньне карупцыі, чванства, хамства, кумаўства і «сямейных» кланаў будзе ўзмоцненае. Уся ўлада крыміналу! Мы плянуем «зламаць» дзяржаву, абрабаваць народ!

1.Гвалт над правамі і свабодамі чалавека: адбіраньне жыльля, звальненьні з працы, безабароннасьць грамадзян перад узаконеным умяшальніцтвам у прыватнае жыцьцё, татальная экспрапрыяцыя.

2.Бяспраўе і няроўнасьць грамадзян перад беззаконьнем.

3.Крывы маналёг без чалавека. Навязваньне асноўных рашэньняў тактычнага заняпаду краіны без удзелу народа.

4.Прымус у веравызнаньні. Дарога на могілкі для ўсіх будзе адна. Кожны зможа навязаць грамадзянам Беларусі любы забабон!

5.Паўсюдная цэнзура. Ніхто ня мае права на ўласнае меркаваньне, усіх будуць прымушаць маўчаць. «Заткнуць рот» грамадзяніну – сьвяты абавязак кожнага беларуса!

6.Беспрацоўе. Закрыцьцё неэфэктыўна прастойваючых прадпрыемстваў – галоўныя гарантыі скарачэньня працоўных месцаў. У Беларусі ня кожны састарэлы чалавек мае і будзе мець права апошняга месца ў курылцы.

7.Уціск маладых, чалавека ў радасьці, непавага да вэтэранаў і пэнсіянэраў. Будзе забясьпечана несправядлівасьць у разьмеркаваньні платных лекаў для інвалідаў і хранічна здаровых.

8.Непісьменнасьць. Кампутары і інтэрнэт – з кожнай школы, з кожнай ВНУ. Бяздарныя школьнікі і студэнты будуць і надалей атрымоўваць успамогу праз спэцыяльныя фонды Прэзыдэнта.

9.Рытуальнае абслугоўваньне. Будзем аказваць платную мэдыцынскую дапамогу людзям, а таксама ўкараняць старыя формы шкоды здароўя, што зарэкамэндавалі сябе ў сьвеце.

10.Барацьба за алькагалізм, курэньне, наркаманію – галоўны выклік XXI стагодзьдзя. Спорт будзе абавязковай умовай сьмерці людзей.

11.Васалітэт і залежнасьць. Гэта дастаяньне народу можа быць пастаўлены пад сумнеў усім і заўсёды. Нашы бацькі й дзяды ўжо жылі ў залежнай Беларусі, а беларускі народ ня будзе сам вызначаць свайго лёсу.

**Дзеля загніваньня нягоднай Беларусі мы паасобку зрабілі, што мала не пакажацца. Але я ня ўпэўнены, што мы зробім значна менш.**

**Ня ваш Уладзімір Ганчарык**

## *За сапрАўдную апазЫцыю!*

### Як гэта мусіць быць.

Калі 8 верасьня на Кастрычніцкай плошчы «Зубр» не пакажа нам у онлайне беларускую Югаславію, нас чакае эякуляцыя экстрэмізму. Маладняк абвінаваціць дарослых лідэраў у апартунізьме і разьбяжыцца па флэтах ствараць беларускія аналягі Хамазу або IPA. Спробы радыкалізацыі апазыцыі былі й раней, аднак усе яны скончаліся стандартна: паветра было сапсаванае некалькімі радыкальнымі слоганамі і тостамі за снайпера! Чаму ўсё так кепска ў асяродзьдзі беларускіх Усамаў бэн Ладэнаў? Таму, што нашыя квазітэрарысты засмактаныя сыстэмай, грамадзтвам. Таму, што пры стварэньні рэвалюцыйнага андэграўнду агрэсіўныя, аднак лянівыя тынэйджэры ня ўлічваюць моўную тэорыю Вітгенштэйна. Сэнс яе ў тым, што мова – гэта ня проста канстатацыя факту. Мова – гэта рэальнасьць. Паколькі мы ўспрымаем навакольнае асяродзьдзе праз прызму мовы, то ўсё навокал – гэта мадэль нейкай моўнай гульні, якая легітымізуе рэальнасьць. Калі зьнешні сьвет будуецца на аснове моўных нормаў, немагчыма парваць зь ім, не зьмяніўшы сэмантычныя правілы. Напрыклад, гераіня п'есы Б.Шоў «Пігмаліён» цьвяточніца Эльза стала лічыць сябе арыстакраткай пасьля таго, як разьмяняла слэнг кокні на літаратурную мову Шэкспіра і Дыкенса.

Гэтак і нашыя радыкалы, якія сапраўды намераныя стварыць жорсткую апазыцыю і зламаць шыю сатрапу, павінны выпрацаваць новую тэорыю маўленчых актаў. Яна павінна быць пабудаваная на поўным адмаўленьні ад сэмантычных нормаў рэжыму, перш за ўсё перагледзець усе бінарныя апазыцыі дабра і зла. Толькі тады нашыя вуліцы судрыгнуцца ад вылазак камікадзэ-адмарозкаў, у якіх няма нічога агульнага з сыстэмай. Вось як напрыклад павінна была выглядаць перадвыбарчая праграма сапраўднай радыкальнай апазыцыі (гл. справа), напісаная ў піку сёньняшняй прэзыдэнцкай праграме (гл. зьлева).

# Выбары і

*Ў кантэксьце інсынуацыяў і прымітыўных спрэчак наконт магчымых фальсыфікацыяў і чэснасьці-нячэснасьці другіх беларускіх прэзыдэнцкіх выбараў, жорсткім чэлесам устае яшчэ адно пытаньне: які ўвогуле зуд рухае рукой сярэднестатыстычнага грамадзяніна, калі на сваім бюлетэні ён устаўляе любы знак у ячэйку таго ці іншага кандыдатаі Адказаў можа быць два. Напрыклад, старшыня Цэнтарвыбаркаму Лідзія Ярмошына дзяжурна заявіць, што выбар адбываецца на аснове грунтоўнага аналізу праграмаў (гл. тэст у нізе старонкі) і біяграфіяў прэтэндэнтаў на пост вярхоўнага галоўнакамандуючага РБ. Разам з намі такі пастулат радыкальна абвяргае Ірына Вітаўтаўна Андрэева, 46-гадовая касірша аднаго зь менскіх унівэрмагаў (И.В.Андреева. Экономическая психология. Социокультурный подход. СПб, 2000). «Я лічу», – казала кабета аднаму з пакупнікоў за тыдзень да плебісцыту, – «што ідэалягічная дамінанта і эканамічная платформа кандыдата - другасныя артэфакты. На аснове свайго досьведу гандлю ў*

пануць вяртаньне ў Эўропу, або стаць грамадзянінам агромнай і магутнай дзяржавы СССР, якая дасьць прасрацца ўсяму сьвету.

## 1. Выкарыстаньне бязглузьдзіцы і абсурду

Бязглузьдзіца павінна спрыяць паляпшэньню вобразу тавару ў вачах спажыўца і яго зацікаўленасьці. Пры выкарыстаньні гумарыстычных прыёмаў якасьць тавару (кандыдата) падкрэсьліваецца тым ярчэй, калі ён зьўляецца на фоне нечага надзвычай непраўдпадобнага. Пафас, наадварот, найбольш падыходзіць да экстрэмальных пэрыядаў гісторыі дзяржавы. У гэтым сэнсе ў Беларусі сэзону лета-восень'2001 рэклямныя палітычныя вобразы - хутчэй спакойныя ці ігрыва-гумарыстычныя, чым пафасныя, што сьведчыць аб значнай сацыяльна-палітычнай стабільнасьці і задаволенасьці заказчыкаў рэклямы існуючым становішчам.

## 2. Эксплюатацыя дзіцячых перажываньняў і фіксацыяў

Успрымальнасьць спажыўца да тых ці іншых рэклямных вобразаў залежыць ад таго, якая фіксацыя пераважае ў ім. іншымі словамі, амаль кожны дарослы ў падсьвядомасьці захоўвае памяць аб траўматычным досьведзе дзяцінства і ўсё жыцьцё прагне яе кампэнсацыі. Траўмы могуць быць трох асноўных тыпаў - аральная (калі дзіця занадта рана ці брутальна адрываюць ад мацярынскага саску), анальная (калі будучага спажыўца-выбаршчыка б'юць па попе за тое, што ён гуляецца са сваімі какашкамі), і, нарэшце, фалічна-нарцыстычная. Апошняя можа адбыцца ў пэрыяд разьвіцьця, калі дзіця пачынае адчуваць сваё цела поўнасьцю і мець інфантыльны страх перад кастрацыяй. Калі ў чалавека аральная фіксацыя, то каб пазьбегнуць нэўрозу, яму патрэбна пастаянна штосьці есьці, гладаць, смактаць ці проста трымаць у роце. Адсюль такі спажывец вядзецца на рэкляму з аральнымі вобразамі; іншымі словамі, там, дзе чалавеку прапануюць паесьці, пасмактаць і г.д., пужаюць голадам, ці абяцаюць прадуктовае ізабільле. Спажыўцу з анальнымі фіксацыямі камэрцыйная рэклама прапануе тавары як ідэальныя сродкі падтрыманьня чысьціні - маніі анальнага нэўротыка. Нарэшце, каб падчапіць спажыўца з фалічна-нарцыстычным бзікам, патрэбна дэманстраваць яму прыгажосьць (эталённую «жаночасьць» альбо «мужнасьць») цела.

## 3. Выкарыстаньне фактару сацыяльнага статусу і прэстыжу

У герархічным грамадзтве, дзе пануюць адносіны дарвіністкай канкурэнцыі, няздольнасьць спажыўца дабіцца хуткага павышэньня ўласнага статусу кампэнсуецца праз спажываньне тавараў, якія сымбалізуюць гэтае павышэньне. Даводзіцца, што набыцьцё рэклямаванага тавару - самы кароткі шлях у вышэйшую касту, дзе спажыўца (выбаршчы-ка) чакаюць лепшыя бабы, тачкі і бабло. Палітычныя варыянты гэтай камэрцыйнай рэклямы пра-

**МЕСЯЧНЫ ЗАРОБАК У КРАІНАХ ЕЎРОПЫ**

## 4. «Жанчыны, дзеці і зьвярушкі»

Навуковымі дасьледаваньнямі пацьверджана, што найбольшую прывабнасьць рэкляме надае прысутнасьць жанчыны. Далей па сіле эфэкту ідуць дзеці і жывёлы. Прыцягальнасьць трох азначаных істот тлумачыцца іх агульнапрынятым падпарадкаваным, залежным і безабаронным становішчам.

*За кагО падасІ гОлас?*

# Галасуй, не галасуй, уся роўна...

**Ня так даўно французская газэта *Liberation* разразілася інтэрвію лідэра «Зубра» Цімоха Дранчука. Той пакаяўся, што галоўным фактарам ягонага прыходу ў апазыцыйны рух стала адраджэньне г.зв. «Лукой» савецкай рыторыкі. Гэта даволі цікавая навіна ў сьвеце палітыкі. Па-першае таму, што як лічаць палітолягі асаблівасьцю сучаснага глябальнага палітычнага працэсу стаў адыход ад чыстай клясавай стратыфікацыі «левыя-правыя». Каста палітыкаў мае ўласныя карпаратыўныя інтарэсы і даўно ўжо арыентуецца не на нейкую ідэалёгію, а на шырокія сацыяльныя групы. Гэта тактыка г.зв. «catch-all» («хапай усіх»), калі выбаршчыку прапануюцца праграмы папулісцкага кшталту, якія мала чым адрозьніваюцца паміж сабой. Назваць сябе пасьлядоўным камуністам або лібэралам ці, верх вычварэньня, нацыянал-кансэрватарам, стала сынонімам палітычнага харакіры. Па-другое, калі сыходзіць з словаў Дранчука, прысутнасьць у рыторыцы Лукашэнкі саветызмаў быццам бы правакуе моладзь на палітычную барацьбу. Застаецца толькі навучыцца іх знаходзіць. Правядзем сэмантычны экспэрымэнт. Перад намі арыгінальныя фрагмэнты перадвыбарчых праграмаў трох кандыдатаў: Лукашэнкі, Гайдукевіча і Ганчарыка. Сярод іх знайдзі тыя, што належаць Лукашэнку, іншымі словамі, напоўненыя паскуднай «савецкай рыторыкай» і ў якасьці прызу атрымай нечалавечы зарад нянавісьці да існуючага рэжыму.**

**А. ЖЫТЛО.**

1. «Следующая задача, на которую я особо обращаю внимание, – обеспечение населения жильем. Наша программа способна уже через год 28% всех стоящих в очереди на жфилье обеспечить отдельными квартирами. Остальные нуждающиеся будут обеспечены жильем поэтапно в течение семи лет.»

2. «Жилье – это уютный дом и теплый очаг для каждой семьи и нуждающихся граждан. Будут всячески поддерживаться и поощряться индивидуальные застройки. Будем строить преимущественно на селе, развивать малые города и поселки. Каждая семья, каждый нуждающийся должен и будет иметь реальную перспективу построить свой дом.»

3. «В центре внимания государства будет решение жилищной проблемы. Дальнейшее развитие получит строительство жилья, льготная кредитная поддержка нуждающихся граждан с учетом их доходов, прежде всего, молодых семей, а также продажа жилья в кредит.»

**Б. АХОВА ЗДАРОЎЯ.**

1. «Медицинское обслуживание. Будем оказывать бесплатную медицинскую помощь людям, а также внедрять новые, зарекомендовавшие себя в мире формы здравоохранения.»

2. «Реформирование системы здравоохранения (создание системы государственного медицинского страхования) должно способствовать оздоровлению общества и улучшению качества медицинских услуг.»

3. «Здоровье нации станут главными инструментами государственной политики по достижению целей и реализации приоритетов развития Беларуси.»

**В. СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА.**

1. «Земельная реформа (частная собственность на землю для граждан Беларуси и подъем сельского хозяйства) увеличит наш бюджет на 20%.»

2. «Будет проведена экономически обоснованная специализация и кооперация сельскохозяйственного производства, обеспечена его интенсификация. Колхозам и совхозам будет предоставлено право добровольно преобразовываться в самостоятельные объединения товаропроизводителей на основе свободного выбора форм собственности и организации производства.»

3. «Поддержка крестьянства — это продовольственная безопасность государства. Мы идем по пути реформирования сельского хозяйства, но без спешки, рассудительно. Совершенствовать формы организации сельскохозяйственного производства будем так, как решат трудовые коллективы и органы власти на местах.»

**Г. ЭКАНОМІКА.**

1. «Кардинальная налоговая реформа (снижение ставки налога на доходы (до 13%), отмена тех налогов, которые повышают цену продукции, введение налога на имущество в виде обязательного страхования) – наряду с общим оздоровлением экономики и устранением социальной напряженности увеличит наш бюджет на 25-30%.»

2. «В самое короткое время будут созданы благоприятные условия для равноправного, эффективного хозяйствования предприятий и организаций всех форм собственности, включая малое и среднее предпринимательство. Сформирована здоровая конкурентная среда, рыночная инфраструктура, в т.ч. денежно-кредитный, валютный и фондовый рынки. В течение года будет изменена система налогов в сторону их снижения и упрощения, значительно сокращено количество лицензируемых видов деятельности, избыточный контроль и проверки.»

3. «Будет упрощен процесс регистрации предпринимательских структур, прежде всего производственных и оказывающих услуги населению. Контроль производственных предприятий и фирм будет осуществляться 1 раз в год, других предприятий – 2 раза в год. Число лицензируемых видов деятельности будет сокращено до 10-12.»

**Д. САЦЫЯЛЬНАЯ СФЭРА.**

1. «Обещаю резкое повышение благосостояния народа и приближение его к уровню экономически развитых европейских государств путем поступательного, эволюционного движения вперед, основанного на политической и социально-экономической стабильности общества.»

2. «Гарантирую социальную справедливость, реальное повышение благосостояния всего общества, уважение к производительному и качественному труду. Будет проведена реформа заработной платы, поэтапно установлен ее минимальный размер на уровне прожиточного минимума, затем – минимального потребительского бюджета.»

 




Пачатак верасьня – час, калі вырашалася будучыня беларускай супольнасьці сэксуальных меншасьцяў. Прыйшла пара абіраць самую прыгожую міс дзіву краіны. На гэты высокі пост гей-намэнклятура высунула ў якасьці кандыдата трансвэстыта Ваву. За яго сьпіной стаяў рэдактар часопісу *Форум Лямбда* Эдвард Тарлецкі, які баіцца крытыкі і рабіў ўсё магчымае для блякаваньня дзейнасьці сэксуальна-апазыцыйных сілаў. Вярхушкай аўтарытарных педаў быў захоплены ўвесь рынак блакітнай прэсы, які як вядома складаецца з аднаго часопісу *Форум Лямбда*. На ягоных старонках была разьвязаная піар-кампанія пад назвай «Мы ўсе ў адным месцы». Орган Вавы напярэдадні выбараў уціраў чытачам, што «акрамя туманных абяцаньняў і сумнеўнага яскравага іміджу, кандыдаты апазыцыі Даліла і Мануэла нічога канкрэтнага не зрабілі дзеля культурнага дабрабыту блакітнай тусоўкі. Ён, Эдвард, захаваў пераемнасьць гей-прайдаў. Пры ім геі выйшлі з палітычнага хаосу і анархіі, і ў гомасэксуалаў нарэшце зьявіўся свой орган – *Форум Лямбда*. У першыню ў гісторыі беларускіх гееў адчынілі сапраўдны геeўскі клюб. Гэта мог зрабіць толькі мужны гей. Прыгадаем, куды каціласся блакітная справа ў сярэдзіне 90-ых. Да поўнай натуралізацыі сэксуальнага жыцьця ў Беларусі, да таго, што геі стануць безмоўнымі марыянэткамі ў алчных руках вычварэнцаў-гетэрасаў. Гэтага не адбылося!»

Кульмінацыяй інфармацыйнай вайны стала публікацыя кампрамату на апазыцыю, зьмешчаная на старонках *Форуму*. Опус пад назвай «Апэрацыя «Блакітная вустрыца» ўскалануў гейскую думку. У ім сьцьвярджалася, што за Стэйсі і Луізай стаяць заходнія цэнтры аматараў капрафагіі і герантафіліі. Яны фінансуюць праграму апазыцыйнага кандыдата-трансвэстыта. Таму ўсе «здравамысьляшчыя» геі ня маюць права аддаць лёс свайго ануса ў іхнія рукі.

Я нясу на сваіх мужчынскіх руках гэту неакрэплую істоту блакітную (вокую) Беларусь...

Эдзік, дыктатар *Лямбды*

Мы здолеем згвалціць дыктатуру!
Не тармазі, крошка, выбірай!

Апазыцыя

Тым часам Дэмакратычныя гейскія сілы вызначыліся з адзіным кандыдатам на выбарах дзівы. Прэтэндэнтаў на пост адзінага было некалькі – Луіза, Стэйсі і яшчэ нейкі педзік. На сваім кангрэсе яны вырашылі, што адзіным стане нехта Стэйсі. Нарэшце ў дэмгомаў быў адказ на пытаньне, за каго галасаваць. За адзінага кандыдата ад шырокай кааліцыі! Яшчэ кандыдат Стэйсі заявіў, што ён здымае сваю кандыдатуру на карысьць Луізы. Усе зразумелі, што Луіза зьяўлялася кампраміснай фігурай. Вакол яго аб'ядналіся як правыя (нарцысісты), гэтак і левыя (бісэксуальныя) геі. Гэта, як лічылі апазыцыянэры, было залогам будучага посьпеху. Была разгорнутая цэлая мабілізацыйная кампанія «Масіруй» і «Час вібрыраваць». Дэмакраты геі запрашалі людзей прыйсьці на выбары ў клюб «Вавілон», каб адсьвяткаваць доўгачаканую перамогу.

Прыхільнікі Вавы не зьбіраліся так проста аддаваць карону дзівы дэмакратычным дэмагогам.







Перадвыбарчая агітацыя

Язык мой - сябар мой! Увогуле, у мяне шмат сяброў.

Класык новага беларускага языка А. Глёбус




Журы конкурсу




Закулісныя інтрыгі




Незалежны назіральнік Шырлі

Залогам посьпеху іх кандыдата стала фальсыфікацыя сыстэмы падліку галасоў. Журы конкурсу было сфармаванае лямдаўскай вэртыкальлю і пастаўлены пад поўны кантроль Эдварда. На пост старшыні журы быў прызначаны марыянэтка Эдварда Т. – пісьменьнік Адам Глёбус Беларусі. У вечар конкурсу незалежных назіральнікаў-натуралаў не дапускалі да кантролю за працэсамі галасаваньня. Нядзіўна, што пасьля складанай барацьбы з трох кандыдатаў дзівай быў абраны Вава. Ён атрымаў 7,5 галасоў журы. Кандыдат ад геяў-дэмакратаў задавольніўся толькі адным голасам. Як палічылі незалежныя назіральнікі, выбары адбываліся зь вялікімі парушэньнямі. Частка сябраў журы, напрыклад, той жа Глёбус Беларусі, была асабістымі сябрамі Эдварда, іншых сябраў журы, кшталту Шырлі, проста спаілі гарэлкай. У выніку яна зрабіла нецьвярозы выбар.

Калі выбары закончыліся, замежныя і незалежныя назіральнікі адзінадушна пастанавілі – лічыць выбары несправядлівымі. Ніводная з умоваў для правядзеньня конкурсу дзівы на іх думку не былі выкананыя: празрыстасьць конкурсу, доступ кандадатаў да подыюму, роўныя умовы для гей-апанэнтаў. Вава быў прызнаны сфармаваным узурпатарам. У такой сытуацыі Луіза запусьціў чуткі, што Вава набраў ня больш як 4 з паловай галасы, таму патрэбны другі тур. Аднак электарат, які праспаўся пасьля цяжэйшай выбарчай ночы, пачухаўся і зразумеў, што нічога не зьмянілася, а толькі пачалася новая пяцігодка вавізму.




У грымёрцы апазыцыі




Гнюсная фальсыфікацыя







Дэманстрацыя ў падтрымку чэсных выбараў

У адказ на фальсыфікацыі геямі-дэмакратамі былі мабілізаваныя ўсе праціўнікі Вавы. Іх падцягнулі з глыбокай правінцыі. Пратэстанты выйшлі на вуліцы, аднак большасьць гееў краіны засталіся абсалютна індыфэрэнтнымі да факту фальсыфікацыяў рэзультатаў конкурсу. Яны мысьлілі штампамі савецкіх часоў: «мая попа з краю – нічога ня знаю». Акцыя пратэсту з трэскам правалілася. Пасядзеўшы пару гадзінаў на Панікоўцы, апазыцыйныя геі разьбегліся па ложках. Толькі самыя актыўныя засталіся са сваім кандыдатам на ноч. Зранку апошнія апанэнты лямбды таксама рассмакталіся. У гэтай сытуацыі кандыдат Вава трыюмфальна абвесьціў, што атрымаў элегантную і прыгожую перамогу.




Вава - маці блакітнавокай Беларусі



 

# ...ка ... Івана

*...гаснікаў ... раёну*

...мент і ўдарыў мяне тыльным бокам гумавага дручка. Дручок прыляпіўся да маёй сьпіны. «Сука, ты што, ня бачыш, што паветра тут прыватызаванае!?» Аказалася, што каб дыхаць на тэрыторыі, якая належыць транснацыянальнай беларуска-папуаскай кампаніі «Бульбакрэк», кожны павінен гадзіну адпрацаваць на загрузцы новага камбайну па перапрацоўцы бульбы ў чысты гераін. Трэба загрузіць тры тоны бульбы, каб атрымалася адна порцыя наркотыку. Раптам Каларадзкі Зубр вялізных памераў падскочыў да мяне і ўзьнёс на перапончатых крылах проста ў неба. Апошняе, што я ўбачыў, быў нейкі апушчанагася выгляду тып, які прапанаваў групе мангольскіх бізнэсмэнаў купіць альбом з поўным наборам налепак акцыі «Выбірай». Тут Каларадзкі Зубр адпусьціў мяне, і я зь вялізнай хуткасьцю абрынуўся проста ў чорную прорву...

Прачнуўся я ў халодным поце. «Добра!» – рагатаў Іван, расшпільваючы на мне фуфайку. – «Твой бэнэфактар прыняў цябе! Але ты павінен навучыцца пераадольваць Другое Кола Сілы. Ты павінен пакаштаваць напой сапраўдных магаў, што варыў яшчэ Ўсяслаў Чарадзей, які атрымаў яго ў дар ад Вялікага Зубра. Ён настойваецца на Траве Д'ябла і п'ецца пры сьвятле поўні вялікімі глыткамі. Трэба стаяць, абараціўшыся тварам на Ўсход і малаціць паветра гарэхавай шалупінай. Крык кажана, памножаны на дыфэрэнцыял ад мэнструальнага цыклу маладой гобліхі, дапаможа табе. А пакуль выпі гэта!»

Ён працягнуў мне чарку з жаўтаватым плынам, ад паху якога ў маёй галаве загучаў стары гімн БССР з чамусьці бадлераўскім рэфрэнам: «Слава народу, слава Радзіме, слава Табе, Сатана-Трысмэгіст!» Я зноў праваліўся некуды ўбок ад байкала-дняпроўскай магістралі, у вачах пазелянела. Стары добры Мак быў зялёнага колеру! Пачуўся голас муэдзіна. «Гайдук Акбар!» Чарнавусы Рональд МакДональдс працягнуў мне порцыю шаурмы з партрэтамі сяброў беларускага эмірату Садама Хусэйна і Муамара Кадафі. Шалёна загаласіла радыёкропка: «Усім упасьці на дол! Галоўны еўнух Вярхоўнага Эміра Беларустану Сяржука бэн Гайдук-Акбар-Сулейман-Зэмфіры-Бея ідзе шукаць новых наложнікаў у гарэм госьця з далёкага ўдмурцкага халіфату» «Што, дынары ёп?» – закрычаў зялёны Мак. – «Ану ідзі сюды!» «А каб ты...» Я пачаў глядзець у неба, ці няма паратунку ад знаёмага Каларадзкага Зубра. Па небу лёталі іблісы і шайтаны кампаніі Істэйрлайнс. Мне надзелі наручнікі і паранджу. Я апынуўся сярод такіх як я небаракаў на Камароўскім базары паміж кілімамі і кальянамі. «Вось ваш новы гаспадар!» – і я ўбачыў дзядзьку Івана...

«Нічога, адасьпіцца, працьверазее,» – тлумачыў ён супрацоўнікам выцьвярэзьніку, у якім я, як высьветлілася, нярухома праляжаў трое сутак. «Пі,» – каротка загадаў ён, калі мы раптам ізноў апынуліся каля знаёмага вогнішча. Праз вогнішча поўз вогненны павук і валок за сабой галаву Бэтмэна. «Выбірай!» – гучна загадаў Іван голасам Каларадзкага Зубра. Перада мной стаялі дзьве абсалютна аднолькавыя шклянкі з напоем празрыста-бруднага колеру. «У адным зь іх сапраўдная адвёртка ад будучыні, у другім – ключ ад дзьвярэй у Тартар». Я схапіў абедзьве шклянкі і выпіў іх адначасова. «Так і трэба! Ты адкрыў шлях у альтэрнатыўны сьвет, дзе ўсе прагаласавалі «Супраць усіх!». Выбары цягнуцца бясконца. У гэтым і ёсьць мудрасьць кампаніі «Выбірай ...» «Выбірай ... Вы..Бі... Вы... Ыбі ... Рай! Рай!» – грымела ў маім палаючым мазгу...

З комы я выйшаў праз тыдзень і, сабраўшы свае манаткі, зьехаў у сталіцу. Я зразумеў, што прайграў бітву першаму з ворагаў homo sapiens ●

## МагілЁў

# Тут вам не Панікоўка

### Неафіцыйная тапаніміка гораду на Дняпры

Улады заўсёды дбаюць пра эстэтычнае аздабленьне гарадоў і вёсак краіны, імкнучыся падкрэсьліць сваю веліч і магутнасьць. Гэта тычыцца ня толькі фасаду навакольнай рэчаіснасьці. Пацёмкінская вёска павінна яшчэ і мілагучна называцца, напрыклад Слаўгарад, замест Прапойску, Нарач замест Кабыльніку і г.д. Але часта такія мерапрыемствы натыкаюцца на непрыняцьце мас. Ідзе між тым і адваротны працэс перайменаваньняў «зьнізу», ад тых самых народных мас, той большасьці, якая, паводле Фрэйда і Чэ Гевары, аказвае адчайны супраціў той культуры, якую навязвае самазваная эліта, што прысвола сабе сродкі прыгнёту і прымусу. У Магілёве, як і ў кожным горадзе, раўналежна афіцыйнай тапаніміцы існуе і другая – неафіцыйная, то бок назвы, якія гарадзкія аб'екты атрымалі ад носьбітаў жывой народнай мовы, а не ад муніцыпальных чыноўнікаў, і таму яна мае мацнейшую сувязь з быццём, больш праўдзівая і жыццяздольная.

Кожны жывы горад заўсёды мае акрамя навязаных «зьверху» найменьняў яшчэ і народныя назвы гарадзкіх вуліц і мясьцінаў.



Усю новую тапаніміку можна падзяліць на тры групы. Першая, самая вялікая – мянушкі, якія атрымалі як асобныя будынкі, гэтак і жылыя масівы за зьнешнюю адметнасьць у пабудове ці месцы знаходжаньня:

**Апэндыцыт** – начны аддзел прадуктовай крамы на праспекце Міру, размешчаны ў прыбудове, якая нагадвае адростак. Кавярня ў Камсамольскім скверы мае два ўваходы ў чырвоную і белую залі, якія выклікаюць асацыяцыю з вушамі казачнай жывёлы, за што і атрымала назву – **Чабурашка**. Мянушкі Паграбок (крама «Гародніна» на праспэкце Міру), **Гразны магазін** (прадуктовая крама ў раёне вуліцы Лазарэнкі) гавораць самі за сябе. **Дашчацік і Цынкавы гроб** – ня так даўно зьнесеныя бары хуткага абслугоўваньня, што знаходзіліся адпаведна ў драўляным і бліскучым бляшаным шапіках. **Кітайская сьцяна** і **Курская дуга** – дамы па вуліцы Першамайскай, адразу зразумела, адзін дом доўгі, другі – крывы. Частка раёну Задняпроўя, якая месьціцца ў нізіне паміж двума хімічнымі прадпрыемствамі, у наступстве чаго там асядаюць шкодныя рэчывы, завецца **Далінай сьмерці**.

Другая група новых назваў не такая вялікая, але больш цікавая, бо менавіта тут і праяўляецца народная творчасьць. У краме пад назвай «Эрудыт» гандлююць ня кнігамі і падручнікамі, а прадуктамі і гарэлкай. Такая неадпаведнасьць выклікала пераўтварэньне назвы ў **Ерундыт**. Бар хуткага абслугоўваньня «Сыты папа» з нагоды зьнешнасьці наведнікаў ператварыўся ў **Сіняга папу**. А вось **Сьвінное рыла** – калектыўная назва для шэрагу вячэрніх бараў, дзе зьбіраецца нецьвярозая моладзь. Кошты, як і культурны ўзровень там невысокія. Часьцей за ўсё гэтай мянушкай называюць бар рэстарана «Габрава». У кавярні «Бітлз» у вячэрні час публіка больш заможная, але за тое і з крымінальнай накіраванасьцю. «Ні бедныя, ні багатыя, а так, шушара ўсякая. «Быдлас» ён і ёсьць **Быдлас**» – так гавораць пра гэта месца магілеўцы. Вядомы ў Магілёве Дом культуры празваны **Дунькін клуб**. Некаторыя нават ня ведаюць афіцыйную назву «ДК швейнікаў імя Валадарскага». Разьмешчаны ў будынку пачатку мінулага стагодзьдзя, наведнікамі клюбу былі працоўніцы ў асноўным вясковага паходжаньня, за што клюб і атрымаў сваю назву, сугучную з абрэвіятурай ДК.

Жылыя дамы ці мікрараёны звычайна атрымоўваюць сваё другое імя згодна з сацыяльным і этнічным складам жыхароў. Гэтак, у доме **Бірабіджан** жывуць яўрэі, у **Дваранскім гнязьдзе** – былыя партыйныя кіраўнікі, а ў мікрараёне **Нэгрыцянскі квартал** (калектыўная назва спальных раёнаў на ўскраіне гораду са шматлікімі маласямейкамі) – простыя рабочыя, учарашнія вяскоўцы. Цікавая зьява адбываецца, калі назва пачынае жыць уласным жыцьцём, незалежным ад этымалёгіі: гэтак, жыхары выліцы Піянэрскай падпісваюць свае графіці на сьценах **Піянэры**, а цэлы раён Юбілейны перайначыўся ў народнай сьвядомасьці ў **Ёбельны**.

Трэцяя група новых тапонімаў, найчасьцей дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, ускосна зьвязана з пэўнымі гістарычнымі падзеямі, альбо асобамі, што мелі дачыненьне да аб'екта. З-за супадзеньня ў часе будаўніцтва з будоўляй стагодзьдзя, калгасную фэрму называюць **БАМ**ам, а рэзыдэнцыя райвыканкаму Цэнтральнага раёну гораду называецца **Кошкін дом**, бо калісьці ў ім гаспадарыў кіраўнік па прозьвішчы Кошкін.

Падобныя назвы перажываюць не адно пакаленьне жыхароў і не зьнікаюць нават з разбурэньнем аб'екту ●

**Тацяна Ларына,**
Магілёў

## ГОмельшчына

### Адкуль у Раінчыка грант на турнэ?

**Шырока разрэклямаванае пры дапамозе нацыяльнага ТБ, якое ўжо даўно зарэкамэндавала сябе як «нячэснае», канцэртнае турнэ па Гомельшчыне былога верасоўца Васіля Раінчыка адразу выклікала падазрэньні ў дапытлівага гледача. «І ня трэба набываць квіткі, бо ўсе канцэрты дабрачынныя, – сьцьвярждае салодкі голас невядомай дыктаркі за кадрам, – трэба толькі мець у руках кветкі, а ў сэрцы...»**

**Аднак што стаіць за гэтымі словамі? Сапраўды, акторы ды музыкі працуюць, відаць, не за грошы, а за... кветкі, якія павінны трымаць запрошаныя на канцэрты аматары такога кшталту відовішча. Гэта макі, дакладней кажучы, макавыя галоўкі, небывалы ўраджай якіх падасьпеў сёлета на Гомельшчыне.**

**І таму з-пад увагі больш дапытлівага гледача ня выпадзе, як круцяцца ад ломкі па сцэне зоркі беларускай гімнастыкі, як пад час выступаў Вольга Ўронская пад выглядам мікрафону падносіць да вуснаў смочаную ў бэнзыне губку, як бавіцца за кулісамі ансамбаль казакаў «Кубанцы», задуваючы адзін аднаму «цягнічок»...**

**Пакаёўкі, што працуюць у гатэлі, дзе спыніліся «зоркі» гомельскага турнэ, нечакана пацьвердзілі інфармацыю пра сапраўдны характар гэтага мерапрыемства. Акторы вярталіся ў нумары за поўнач, стомленыя да неверагоднасці і таму злыя. Праз гадзіну яны выходзілі з нумароў з вузкімі зрэнкамі ў ясных вачах і ветліва запрашаюць дзяжурных па паверху жанчын падзяліць зь імі салодкі трып. Будзе ня ўсё, калі не дадаць галоўнага. Невыпадкова канцэртнае турнэ супала з канцом перадвыбарчай кампаніі. Па нашай інфармацыі, падчас канцэртаў у залю трапляліся паўкрымінальныя элемэнты і распаўсюджвалі нейкія спэцвыпускі *Беларускай маладзёжнай* ці *Нашай Свабоды*. І гэта пры тым, што прысутная міліцыя рабіла выгляд, што цалкам не заўважае іх. Можна быць ўпэўненым, што канцэрты носяць адкрыты антыдзяржаўны характар і праводзяцца з мэтай незаконнага перавароту ў краіне і «скіданьня» дзеючага Прэзыдэнта.**

## БабрУйшчына

# Трывожнае шчасьце

### Пакуль разнамасныя палітыкі намагаюцца расхістаць грамадства, вёска працягвае жыць сваім жыцьцём




*Жыхары беларускай глыбінкі неасабліва парацца праблемамі палітычных працэсаў. Дэманструючы вытрымку і стойкасьць характару, яны працягваюць займацца справай.*

Сёлета ціхае вясковае жыцьцё на Бабруйшчыне літаральна скаланула падзея надзвычайнай важнасьці – небывалы ўраджай сьліваў. Пасьля дажджу вуліцы аж сінія. Кожная сям'я апынулася перад выбарам. Як ужыць цукар? Зварыць варэньне ці віна ў буталь паставіць? Вечарамі на лаўках не сьціхаюць спрэчкі аб вартасьцях скарасьпелак і чарнасьліву. Справа ў тым, што ў скарасьпелках кепска аддзяляюцца костачкі, а «венгеркі» заўсёды чарвівыя. Значыць чарнасьліў – найлепшы. Варэньне костачкамі не смярдзіць і скурка цьвёрдая. Да такой высновы прыходзяць вяскоўцы. А вось стаўленьне да будучых прэзыдэнцкіх выбараў не такое адназначнае. Гэта пацьвярджае і сацыялягічнае апытаньне, праведзенае ў вёсцы Старая Дуброва Каменскага сельсавету. Усяго ў вёсцы пражывае 16 чалавек. Зь іх на момант апісаньня:

– знаходзіліся ў нецьвярозым стане – 5 чалавек;
– упарта сцьвярджалі, што ня будуць нічога купляць. Алей, мука і кітайскія пакрывалы ім не патрэбныя – 2 чалавекі;
– пераблыталі мяне з калгасным брыгадзірам. Даказвалі сваю непрычаснасьць да крадзяжу калгаснай бульбы – 2 чалавекі;
– адмовіліся адказваць. Баяцца, каб пэнсіі не пазбавілі – 2 чалавекі;
– згубіў слыхавы апарат – 1 чалавек.

Такім чынам, фактычна ўдзельнічалі ў апытаньні 4 чалавекі. Вынікі аказаліся наступнымі.

Дзед Сямён ня любіць БНФ. Бо ягоны сусед, які зьяўляецца прыхільнікам гэтай партыі, выпускае ў дзедаў агарод сваіх куранят. 9 верасьня Сямён прагаласуе за Лукашэнку, каб дасадзіць суседу.

Сам Сямёнаў сусед зьбіраўся ехаць у Асіповічы да кума па крадзены камбікорм. Пагаварыць тоўкам не ўдалося. Не адрываць жа чалавека ад важнай справы.

А вось баба Ніна ў палітыку ня лезе. Яна варыць варэньне зь «венгерак». Бабіна радыё гаварыць гучна толькі пасьля дажджу.

– Дзетачка, хто там выступае?
– Лукашэнка.
– Ат, – безнадзейна прамаўляе баба, мяшаючы сьлівы і працягвае, – мо і праўда віна са сьліваў нарабіць.

Муж бабы Ніны, крывы Хведзька ня любіць Рыгорыча. За тое, што яго дужа часта тэлевізар паказвае. А Хведзькава любімая перадача «Поле цудаў». Так бы цэлымі днямі й глядзеў. Можа б часьцей паказвалі, калі б Лукашэнка не выступаў?

Як бачым, сытуацыя вымалёўваецца цікавая. На чым баку праўда – пакажа час ●

**Зайцаў С.П.**
сацыёляг, інвалід III групы

## ГОрадня

# Хмяльны компас

EEB BIER CERVEZA PIWO ПІВА ПИВ

### Этнаграфічная экспэдыцыя па гарадзенскіх народных піўнухах




## ПАЛУБА

*«Ох, где был я вчера. все никак не пойму. Помню дом только с обоями..»*

*В. Высоцкий.*

Некалі Бэнэдыкт Ерафееў у сваёй жыцьцёвай кніжцы «Москва-Петушки» сказаў выбітную фразу: «Ганьба майго народу – час ад узыходу сонца да адкрыцьця крамаў.» Хто з вас не будзіўся а шостай раніцы ад таго, што статак ашалелых клапоў выбягае з твайго роту ад гэтай па-паэтычнаму балючай смагі і ўжо больш празаічнага галаўнога болю. Ніхто!

і вось апасьля ўчарашняга сьвята (а што мы сьвяткаваліі..), мы спаткаліся а 7.55. ля Палубы. Чаму яна завецца «Палубай»? Паводле старажытнага паданьня, якое захавалася ў ваколіцах, менавіта ў гэтым месцы асеў на глебу Ноеў каўчэг. Дрэва, зь якога быў зроблены каўчэг, было вельмі добрым але, засранае жывёлай, хутка згніла. А палуба, на якую садыст Ной не пушчаў жывёлаў падыхаць сьвежым паветрам, засталася. Старажылы памятаюць, як на самой палубе іх бацькі пілі піва. У час барацьбы савецкай улады з рэлігійным прыгнётам палуба была зьнішчаная. На гэтым месцы ўзьнік будынак у стылі савецка-брэжнеўскага барока пад загадкавай назвай «Адпачынак». Але ў глыбіні народнай памяці пяшчотна перадаецца з пакаленьня ў пакаленьне сапраўдная беларуская назва «Палуба».

Але ж і да гэтых беларуска-польска-габрэйскіх (нашых) мясьцін дайшла русіфікацыя. Першы куфаль піва, які мы пілі ў надыходзячы дзень, меў назву «Жигулевское». Нам станавілася лягчэй, але мы лаяліся матам на прыгажэйшай беларускай лацінцы. Новыя куфлі свойская абслуга – заўжды п'яная прыбіральшчыца Стэпка і сабака, які жыве тут у кутку бару – не затрымалі нас тут даўжэй. Адмовіўшыся ал імпэрыялістычнага піва, мы пайшлі далей.

## ЖЭСЬЦЯНКА

Выціскаць пену зь піва – гэта мастацтва. Валянціна Барысаўна, прыгожая жанчына гадоў так пад 50, з устаўнымі зубамі і дрэнным макіяжам, авалодала ім у дасканаласьці. Якое ж яшчэ піва бліжэй да Гарадзеншчыны, як не «Шляхецкае» (15% мацунак, як і колькасьць шляхты ў нас да 1772 году).

Толькі добра, што мы ўзялі з «Палубы» куфлі, бо аб'ява на вітрыне пужала кліентаў: «Піва толькі ў аднаразовых шклянках». На падыходзе да «Жэсьцянкі», мы ўбачылі Бахарава, які спазматычна дапіваў сваё піва і, заўважыўшы нас, хутка пабег да тралейбусу. Вельмі ўзрадаваліся, калі спаткалі ў калейцы сяброў зь біяфаку. Калі «Палуба», наскрозь псторыка-этнаграфічнае месца, то «Жэсьцянка» бліжэй біёлягам ці эколягам. Столік ва ўнутраным дворыку сярод зяляніны дрэў, кустоў ды вялізных лапухоў, каты, жукі ды мошкі, Валянціна Барысаўна і іншыя прадстаўнікі электарату. Мы выслухалі глыбока асабістыя прызнаньні сябра-біёляга, час ад часу спынянага рэплікамі з-за кадру: «Мы, славяне, далжны жыць умесьце. Украінскіе, бсларускіе, рускіе.. .», «Да. Я габрэй! А, што? Мой прадзед разам з Балаховічам рубаў бальшавікоў на права і на лева...», «Я мужык-беларус...» і г. д. Але ж, ня гледзячы на цікавасьць сэксуальных уяўленьняў сябра – я і дэканша, Фаг і я, сэсія і мы – а таксама непаўторнасьць мясцовага калярыту, мы любім піва, а ня пену. А таму мы рушылі далей.

## СЬВЯТАРНЯ

*«Two beer or not two beer».*

*П'яны Шэкспір.*

Студэнты з цэнтральнага корпусу добра ведаюць піўнушку ля Сабору. Ужо сонейка прыпякала, калі мы падышлі да невялічкай калейкі. Вельмі мілая буфетчыца з усьмешкай спытала, як здалі сэсію. Сацыяльны і этнічны кантынгент «Сьвятарні» адлюстроўвае беларускае грамадзтва. Шкляныя куфлі, піва «Для вас», не такое моцнае як «Шляхецкае», але ж смачнае і калярыйнае (42 ккал ў 100 гр), поп за суседнім столікам, які ў час імшы выпіў царкоўнага вінца з адмазкай нібыта гэта кроў Збавіцеля, даганяўся півам, пачухваючы крыжам патыліцу і набажна пазіраючы на праходзячых міма бляндынак у бікіні. Абітура, сквапна глытаючы піва і з павагай паглядаючы на п'яненькіх студэнтаў, якія 2 хвіліны таму здалі запазычанасьці і пасьпелі надрацца, як калгасьнікі падчас «Дажынак». І тут у зьнявечанай сэсіяй студэнцкай псыхіцы, нарадзілася ня вельмі добрая, як мы потым зразумелі, думка: «А чым мы горшыя за Швэйка? Ці ж мы ня здолеем прайсьці ўсе піўнухі Гародні?!»

## FREASH

Праз цэнтар гораду ля мясьцін, дзе ў 39-ым палалі бальшавіцкія танкі, каля такога ж самага танку (але ж 44-га году вытрымкі) ды тэатру, які псыхічна хворы архітэктар пабудаваў на месцы могілак, мы падышлі да ГАРАДЗЕНСКАГА БРОВАРА. Месца, якое з павагай называецца «Мардоўняй». «Чаму?» – спытаеш ты, яшчэ цьвярозы чытач. Можа таму, што ў наведнікаў замест твараў морды, ці таму, што Freash знаходзіцца на беразе рэчкі, як паселішчы старажытнага народу мардва, ці можа проста таму, што неспадабаўшыхся асоб тут мардуюць. Безумоўна, на Freash найсьвяжэйшае й найтаньнейшае піва, без нацэнак, разбаўленьня і кансэрвантаў. Купіўшы па 3 куфлі піва, мы сталі недалёка ў цяньку, п'яныя і радасныя, узіраючыся ды абмяркоўваючы наведнікаў. Калі мы дапівалі апошнія куфлі, ад натоўпу да нас падышлі 5 дзецюкоў з масьцямі і залатымі зубамі. Пытаньне было рытарычным: «Чаго ржэце, сапляўкі?» – «Мы не сапляўкі, мы студэнты!» – «Ах студэнты!» Мы і думаць не маглі, што столькі пашаны выклікае студэнцтва ў люмпэн-пралетарскай часткі грамадзтва.

## П'ЯНЫ КУТ

***«Мой п'яны кут, як ты мне мілы! Забыць цябе ня маю сілы!»***

***Нехта зь янкаў***

Пачухваючы балючыя месцы, ды выкалупваючы крывавыя сапляўкі з носу, мы набліжаліся да занёманскай, а таму вельмі загадкавай часткі Гародні. Неўзіраючы ні на што, хацелася яшчэ піва і па бэйсбольнай біце ў руку, каб на роўных размаўляць з электаратам. Больш абсталяваная чым Freash (ёсьць столікі), зь відам на кнігарню, абуджаючы настальгічныя ўспаміны палац Хімікаў. Некалі перад візытам А.Г.Л. у Гародню пляц ператварыўся ў прыгожую дзіцячую пляцоўку з трактарамі, сенакасілкамі ды пераможцамі соцспаборніцтваў. Мы пілі піва, ўжо невядома якое, колькі і па чым. і адзіным сьветлым успамінам зь п'янага кута застаўся сэксоўны позірк і пяцічотнае запрашэньне сяржанта міліцыі: «Вы, двое, в машыну!» Мы адмаўляліся, казалі, што ня сядаем у машыну зь незнаёмымі мужчынамі. Але ж падышлі яшчэ двое і яны былі вельмі настойлівымі.

P.S. А пятай над ранкам, мы выйшлі на яшчэ халодную, але ўжо чыстую вуліцу Тэльмана, харкнуўшы некалькі разоў у бок мянтоўкі. «Ганьба майго народу – час ад узыходу сонца да адкрыцьця крамы» ●

ПАВОДЛЕ МАТЭРЫЯЛУ ГАЗЭТЫ

***БУНТУЙМА!***

## БарАнавічы

# Уі ол ліў ін э елоў сабмарын...

### *І дасюда ў канцэ канцоў дакаціўся Інтэрнэт*

Інцірэсная штука жызьнь – усё пераварачываецца з ног на голаву. Камп'юцеры, камп'юцеры – раманціка. Саўрыменны мір (і камп'юцеры іжэ сь нім) запаланіў усё прастранства паўсіднеўнай жызьні, што дажэ – да таго дашлі! – жывых людзей называют іх эляктроннымі адрасамі... і вот перыфярыя зашэбуршылась чучка: у нас, у Баранавічах, аткрылась інтарнет-кафэ з загадачным названіем «Жолтая Падводная Лодка». Ну, там рэклама ўсякая: на каждам сталбе і заметкі ў рэсьпяктабельных месных газетах. Арыгінальны дзізайн памяшчэнія і канцэпцыя марскога образа жызьні. і сразу как-та мне не па сібе стала, і саўсем не захацелась туда іцьці. Не, ну што я там забылі А тут са ўсех дыр начыла прасачывацца інфармацыя, і цем самым мне парадкам паднадаідаць, што дажэ сны сьнілісь ужасные. Дабы закончыць такое ісьцязаніе, рэшыўся, наканец-такі, зайці ў эта самае інтарнет-кафэ. і што бы вы думалі – цэлая куча знакомых (горад жэ наш эта бальшая дзярэўня) ліц, адно із ніх мне і расказала нескалька інцірэсных фактаў із жызьні кафэ.

Как у нас прынята, «бальшому караблю – бальшая бутылка шампанскага». Такім рытуалам і начылось аткрыціе. А патом прыкола радзі рэшылі размачыць манітор: ціпа пасматрыце какія мы крутыя, што дажэ какой-та офіснай цехнікі ня жалка. Савяршыць прылюднае разьбіваніе манітора пад нумарам 13 (суіверныя, блін) дасталась таму, у каго большэ акажэцца дзіскаў з сабой. У разьбівающчага іх і ўправду была няхілая стопка. Што-та модна пасьледнее ўрэмя стала занімацца вандалізмам, можна, канешна, прыперчыць гэта ўсё сацыяльнымі лозунгамі ціпа «чэлавек упраўляе машынай, а не машына чэлавекам», но міня лічна не правядзёш такой аткравеннай лабудой. Патаму што мы ўсе прэкрасна знаем, што такая паказуха - чыста камерчыскі ход, прысьледуюшчы толька карысныя цэлі.

Такжэ как і шутка такая: стартавая страніца на ўсех машынах – афіцыальны сайт прэзідзента РБ – ніхто яго ня любіць, глумяцца з чэлавека, вот і пасмотрым посьле такога: хто пабядзіт. Украіна ілі Беларусы

А яшчо там работают мальчыкі і дзевачкі (устрачаюцца сімпацічные) валанцёры, но там іх пачэму-та называют фінгерамі (ад англ. finger [фінджэр] палец). Ані памагают пасіціцелям, каторые ну ні бум-бум, карочэ, саўсем чайнікам: падскажуць як куда прабрацца, гдзе куда клікнуць, штобы ўчудзіць што-нібудзь такое. Вот нафінжырысься чэтырэ часа, а патом у качэстве аплаты можаш беспрэпяцтвенна запутацца ў усямірную паўціну. За час, самі панімаеце, у насу толкам ня ўсьпееш накалупацца, а то ў і-нэце што-та палезнае найці.



**У інтарнет-кафэ з загадачным названіем «Жолтая Падводная Лодка» стартавая страніца на ўсех машынах – афіцыальны сайт прэзідзента РБ.**

Для прыўлічэнія электарата заведушчыя кафэ рэшылі замуціць сначала бясплатные ўрокі абучэнія юзінгу, а патом, зь сінцябра, кажды абучаюшчыйся должэн башляць у казну кафэ.

Можэт, для нашага горада, гдзе канцынтрацыя культурных сабыцій і завядзеній очэнь мала, патаму шта прэабладаюшчае бальшынство - пралетарыат, і нармальна. Ну, панятна, што не ўва ўсех есьць столька бабла, штоб сідзець да ўсрачкі ў інтарнэце, і эта пры маленькіх скарасьцях.

Тока я саўсем пака не нашоў нікакой сьвязі зь ліварпульскай чацьвёркай ●

**Ёк Он Із-пад Баранавічэй**

РЭГІЯНАЛЬНЫ РЭПАРЦЁР






**Восьмая марта. «С праздником!»** ***Nox music, 2001***

## *Восьмая марта*

ВОСЬМАЯ МАРТА (для тых, хто пакуль ня ведае) – гэта гітарыстка Галя Капернік (непуцёвая дзяўчына а-ля маладая А.Пугачова), басістка Марына Гугуберыдзэ (жанчына-вамп) і барабаншчыца Маша Кіндэр (рамантычная тургенеўская барышня). Уражвае ўжо самая мэтанакіраванасьць дзяўчат, якія прыехалі з расейскіх епяней у Маскву, каб стварыць панк-гурт. Проста нейкая банда апантаных рокам Папялушак. Такі сюжэт нават просіцца ў які-небудзь круты галівудзкі баявік-мэлядраму, але зараз за нястачай вольнага часу абмяжуемся аналізам альбому гурта, які носіць арыгінальную назву «Са сьвятам». Стыль альбому можна вызначыць як мэлядычны панк з элемэнтамі бардаўскага шансона і гістэрычнага надрыву.

Слухаючы гэты гурт, я прыгадваю, як ПТВэшнік Ігі Поп зломным голасам пускае пеўня ў Ann на першым альбоме THE STOOGES. Гаротнага хлопчыка хочацца прытуліць да грудзей і павыць разам зь ім. Тая ж самая гісторыя і з ВОСЬМОЙ МАРТАЙ, толькі з той папраўкай, што скавытаючых і енчачых дзяўчынак хочыцца прытуліць да грудзей яшчэ больш. А вось якой-небудзь СПЛИН ці СМЫСЛОВЫЕ ГАЛЛЮЦИНАЦИИ зь іхнымі квазі-каларатурнымі мецца-сапранамі – зусім ня хочацца (фу, пайшлі адсюль праціўныя!).

Сярод 15 баявікоў ВОСЬМОЙ МАРТЫ, якія трапілі на магнітафонную стужку, найбольш уражваюць «Білі-Вінкі», «Параход», «Голая» і «Наташа». «Білі-Вінкі» вылучаецца сваёй мінімалістыч-най мэтафізычнасьцю, «Параход» каўбасіць калдырным бітам, «Голая» прыцягвае вытанчаным трагізмам і трансцэдэнтным мэлядызмам, а «Наташа» наогул зьяўляецца адным з самых лепшых сьпеваў пра каханьне са ўсіх, якія я калі-небудзь чуў. Ёсьць на альбоме і два кавэры: «Электрычнасьць» Б.Г. і «Нявеста» МУММИЙ ТРОЛЛЯ. Але гэтыя перапеўкі зробленыя так добра, што пасьля праслухоўваньня сваёй «Нявесты» ў выкананьні ВОСЬМОЙ МАРТЫ вядомы расейскі травесьці-сьпявак І.Лагуценка ўпаў перад дзяўчынамі на калені і сьлёзна енчыў дазволу выступаць у іх на разагрэве. Не кажу ўжо аб Б.Г., які так уразіўся неўтаймаванай электраэнэргічнасьцю выкананьня свайго старога хіта падчас фэсту «Нашэсьце'2001», што вырашыў наогул завязаць з канцэртнай дзейнасьцю і ў цяперашняй рэінкарнацыі на сцэне мы яго больш ня ўбачым. Вядома ж, крутыя гукарэжысэры такой славутай студыі як Nox music маглі б зрабіць дзяўчынам больш шчыльны гук, а ў «Рэпе» не перашкодзіла б дадаць як нізкіх, гэтак і высокіх, а таксама сярэдніх і бакавых частотаў. Аб рэвэрбэратарах з эквалайзэрамі і сэмплерах з мікшэрамі я ўжо і не кажу. Але ж у цэлым альбом адбыўся, адбыўся. Застаецца пажадаць дзяўчынам толькі, каб наступны рэліз выйшаў на «Polygram», «E.M.I.» ці на худы канец на «Victory records» ●

**Лёша Чыканас**

# Галасуй за Выбірая

## Апазыцыйны агітпроп для беларускай глыбінкі

Вёска N** амаль не заўважная на мапе Беларусі. Яна ляжыць паміж цудоўных лясоў і маляўнічых халмоў на далёкім паўночна-заходнім ускрайку краіны. Таму вёска і заставалася доўгі час брыдкай зялёнай плямай у атачэньні вясёленькіх аранжавых разводаў на тактычнай мапе штабу мабілізацыйнай кампаніі «Выбірай». У N-скай дрыгве не патанула ніводнага выбіраеўскага веласіпэдыста-прапагандыста, вясковыя сабакі не ірвалі аранжавыя майкі і трусы вандроўных агітатараў-перадвіжнікаў, мясцовыя бамжы і алканаўты не пачаставалі на закусон халяўных апэльсінаў. Карацей кажучы, тут панавала палітычная цемра і бескультурнасьць, пакуль начальнік штабу кампаніі спадар Р. ня ткнуў пальцам у мапу і ня мовіў: «Тут будзе лекторый і рок-канцэрт. І памятайце: ніякай канкрэтыкі. Мы не заклікаем галасаваць за якога-небудзь кандыдата, мы проста запрашаем людзей на выбары».

Штаб увайшоў у кантакт з прагрэсіўнымі сіламі вёскі, і ўжо на наступны дзень на ганку мясцовага клюбу караван гастралёраў сустракалі мясцовая настаўніца А. і яе муж, загадчык вышэй азначанага клюбу Б. Ветлівыя ўсьмешкі на тварах абарыгенаў хутка зьмяніліся на зьдзіўленьне і занепакоенасьць. «А чаму вас так шмат? І што, усе – артысты? Ну, чаго ж рабіць, запрашаю, госьцікі, у хату, пачастую вас вячэрай».

А між тым, зь мікрааўтобусаў усё выгружаўся і выгружаўся дэсант выбіраеўцаў, які складаўся з журналістаў, сябраў апазыцыі, сябровак апазыцыйных журналістаў, а таксама сяброў сябровак журналістаў-апазыцыянэраў, якія, у сваю чаргу па зразумелых прычынах былі ў апазыцыі да апазыцыйных журналістаў. Сарамліва таўклося ў гэтым натоўпе і некалькі музыкаў з гітарамі.

Стол быў прыбраны ў духу славутай вясковай гасьціннасьці: пані Самагонка дзяліла стол з хрусткімі агуркамі, рассыпчатая бульбачка была шчодра аздобленая катлеткамі. Настаўніца А. спрабавала весьці з гасьцямі сьвецкую гутарку і нават з настальгічнымі сьлязьмі на вачах паказала ім сямейную рэліквію: парэпаны ў бойцы зь міліцыяй бел-чырвона-белы сьцяг: «А вось гэта, госьцікі дарагія, сьцяг, зь якім мы з мужам у 19** хадзілі на Дзяды ў К****аты. Ай, і зьбіла ж нас тады міліцыя!»

Але ў адказ з набітых іртоў шматлікіх байцоў інфармацыйнага фронту чулася толькі нешта кшталту: «Угу-угу-чвак-чвак, гаспадынечка, самагоначкі перадай». На жаль, цудоўную вячэру прыйшлося перарваць на нудныя лекторый і рок-канцэрт.

Сяляне сустрэлі гарадзкіх актораў хоць і добразычліва, але насьцярожана. Аднак усё ж пляскалі ў ладкі ў патрэбныя моманты. Карацей кажучы, усё праходзіла добра, пакуль вядучы В. ня вырашыў пасюсюкаць з публікай і не запытаўся з дуру: «А што ў нас, людцы, адбудзецца 9 верасьня?» У залі павісла няёмкая цішыня. Тут узьняўся нейкі дзядок і прашамкаў: «А вы што ня ведаеце, дзеткі? Лукашэнку ж выбіраць будзем!»...

Ад'яжджалі ўжо ў цемры. Сябры сябровак апазыцыйных журналістаў яшчэ трымаліся на нагах пасьля гарачага лекторыя і закідвалі ў аўтобусы целы апазыцыйных журналістаў. Некалькі сябровак апазыцыйных журналістаў вырашылі ў пошуках лепшай долі затрымацца на тыдзень-другі з гарачымі хлопцамі вёскі N**. Апошнім занесьлі маладога рабочага сцэны Х., завёрнутага ў славуты гістарычны сьцяг. Гаспадыня пагрэбавала ўзяць сьцяг у рукі, бо пасьля шчыльнага кантакту са страўнікавымі выдзяленьнямі маладога рабочага сцэны Х. на сьцягу зьявілася некалькі новых дзяржаўных колераў і сьвежых малюнкаў незразумелай канфігурацыі. Праводзіць актораў выйшла ўся вёска. Доўга дзякавалі за цудоўны канцэрт, а той дзядок, што ведаў пра выбары, падышоў і сказаў: «Пераканалі вы мяне, дзеткі, у верасьні прагаласую за вашага, гэнага... Выбірая! Толькі вы мне скажыце: ён хоць за народ?» ●

**А. Ярыба-ярыба**

# Булава Гетмана

## (інтэрактыўная аповесьць)

*Кароткі зьмест папярэдніх частак.*
*(Пачатак аповесьці глядзі ў №3-8, 2001)*

*1600 год ад нараджэньня Хрыстова. Падчас сяброўскага візыту ў ВКЛ у запароскага гетмана Галапупенкі пры загадкавых абставінах зьнікае булава – сымбаль вярхоўнай улады. Копны судзьдзя ў адстаўцы Андрэй Ст'анкевіч і яго сябар, палкоўнік Сьліва, бяруцца знайсьці зьніклы рарытэт. Па дарозе свайго расьсьледаваньня яны вырашаюць завітаць у карчму «Адрыжка вясёлага манаха», каб троху адпачыць і пад'есьці...*



***LXIF.***

Жалобная вопратка і чорныя доўгія валасы толькі адцянялі бялізну твару гаспадыні карчмы. Акуратнай крывавай плямай на твары жанчыны пунсавелі вусны, за якімі хаваўся шэраг роўных белых зубоў, мабыць зусім трохі даўжэйшых за стандартны памер. Але самымі прыкметнымі ў пані Гражыны былі вочы: яны нібы гарэлі знутры нейкім пякельным агнём.

Ад такой дэманічнай прыгажосьці ў маладога ўлана-гарналыжніка адвісла сківіца.

– Ну і баба, нібы з малюнку ў часопісе «Гульлівы паніч», – прамармытаў уражаны палкоўнік Сьліва.

– Прыміце нашыя спачуваньні, – стары сышчык Ст'анкевіч абмежаваў выказваньньне сваіх уражаньняў сухой фразай, якая найбольш пасавала да сытуацыі.

– Але мае асабістае гора не павінна прычыніць вам нязручнасьці. Што панства жадае на вячэру? – запыталася гаспадыня.

– Вось гэта іншая справа! – палкоўнік прыняў на сябе ролю сталаўнічага,– Прынясіце нам смажанага парася, бульбачкі, вэнджаны кумпячок, з тузін сьвінных каўбасак і штоф... не, лепей два штофы гарэлкі. Мы шануем ваша гора, і таму павячэраем сёньня вельмі сьціпла.

Гаспадыня пайшла па стравы, а паны ўселіся за стол і распачалі размову.

– Бадзяга, Бадзяга... Недзе я чуў гэтае прозьвішча,– былы копны судзьдзя нахмурыў лоб, спрабуючы нешта прыгадаць.

– І ня дзіўна, – малады шукальнік Грааля ўжо наліваў сабе са штофу. – Мой продак Язэп Бадзяга некалі займаў значную пасаду ў Вялікім Княстве Літоўскім. Няўжо вы ня ведаеце гэтай сумнай гісторыі?

І продак бадзягі пачаў сваё сумнае апавяданьне.

***MKII.***

Язэп Бадзяга паходзіў зь вядомай і радавітай шляхецкай фаміліі. Толькі ўся бяда была ў тым, што славутыя продкі пакінулі яму ў спадчыну занадта багата шляхецкай годнасьці, але не пакінулі досыць дукатаў, каб гэтая годнасьць мела матэрыяльны падмурак. Таму, пэўна, малады Язэп і праслыў самым заўзятым дуэлянтам і філісьцёрам у Кракаве.

Доўга кароль назіраў за яго «подзьвігамі» скрозь пальцы. Але калі ў выніку паядзінкаў з Бадзягам сьвіта яго сьветласьці паменшылася амаль на чвэрць, цьвёрда сказаў: «Надышоў час цябе, яснавяльможны пане, паслужыць Айчыне. Я прыняў рашэньне накіраваць пасла ў Залатую Арду. Таму не далей як заўтра належыць цябе адбыць у Манголію. Нехта ж павінен быць паслом у Манголіі, так ці не? Жадаю посьпехаў».

Так у дваццаць пяць год у пана Язэпа ўпершыню зьявілася Сапраўдная Справа. Першыя непрыемнасьці здарыліся з паслом у Масковіі, дзе яго арыштавалі як польскага шпіёна. Бадзягу пратрымалі некалькі тыдняў на дыбе і, вырваўшы па старадаўнім расейскім звычаі ноздры, накіравалі на Салаўкі будаваць манастыр. Выратавала Язэпа ад лютай сьмерці толькі пасольская недатыкальнасьць. Пасьля некалькіх год стваральнай працы Язэпка, як клікалі яго суседзі па казэматах, зьбег каб уплаў дасягнуць кантынэнтальнай Масковіі. Захлёбваючыся ў сьцюдзёнай вадзе беглы катаржнік памятаў, што на беразе яго чакае Справа.

Выбраўшыся на сушу, Бадзяга адразу прыбіўся да ватагі разбойных людзей і зь імі міграваў на Дон. На Доне казак Язэп Саплівы трапіў у палон да невялікага дзікага стэпавага племя, дзе яму з-за хуліганскіх матываў адрэзалі язык. Гэтая экзэкуцыя, стала апошнім значным зьдзяйсьненьнем племені. Пасьля таго, як стэпавыя дзікуны за тры фальшывых дынара прадалі казака-шляхціча самаркандзкім купцам, племя назаўсёды зьнікла са старонак сусьветнай гісторыі.

У Самаркандзе Бадзягу ўпершыню пашанцавала: яго аскапілі і прызначылі сьцерагчы гарэм эміра, у якім старэйшай жонкай служыла зямлячка Язэпа. Жанчына пашкадавала

## ЦЫРК

### На арэне – *Народная Воля* !

Вось ужо ад каго не маглі чакаць падвоху, дык гэта ад кітайскіх цыркачоў, што давалі прадстаўленьні ў Менску акурат на перадвыбарчым тыдні. Сярод акрабатаў, гімнастаў да клаўнады, у рэпэртуар кітайскай трупы невядома як зацясаўся наступны нумар. Нейкі сапыль з пугай дэманструе публіцы газэту... *Народная Воля.* У выніку пары-тройкі «па» з пугай, кітаёза пакідае ад рупару незалежнай прэсы жалкія ашмёткі. Хто заказаў гэты трюк: улады, з мэтай дыскрэдытацыі *Народнай Волі*, або сам галоўны рэдактар Сярэдзіч з мэтай рэклямы дэмакратычных каштоўнасьцяў сярод аматараў цырку?

# Гэй-Беларусь'2001

## 3-й Беларускі Гей-прайд (2-9 сеньцябра) плануецца правясьці с размахам, ня ўступаюшчым прэзідзенцкім гонкам




**Разнузданасьць нраваў «галубога бамонду» сталіцы павергла ў шок даже відаўшага віды Адама Глёбуса. Натуралы яўна асталісь у сэксуальным меншынстве.**

Какім только шчупальцам не ўдаёцца дарвацца да кранаў прамыўкі мазгоў электарата ў наша смутнае ўрэмя! Выбіратары с васхадзяшчымі шэсьцяронкамі – і це пад канец сьмянілі аранжывасьць сваіх футболак на галубізну, стаят, пазёвывая, на прасьпекце, абмахіваюцца глянцавітымі буклетамі. Вот і тутэйша-підарская Ліга Лямбда зацеяла пад прэдвыбарную лавачку пабряцаць сваім глаўным аружыем – культурнымі мерапрыяціямі «проціў замалчываніа нашых праблем і раздуванія гамафобіі ў обшчыстве». Праграма, нада прызнаць, састаўлена граматна: у качыстве падгатавіцельнага этапа – кіналякторый, а за ім фотавыстаўка, фэшан/іроцік шоў, лаў парад і, наканец, – ажно «Аткрыціе осені»! На халяўны масавый прасмотр былі поданы тварэнія Франсуа Азона (усе чатыры), і выбар, апяць-такі, неплахой. «Крысятнік» – дзябютны вінігрэт із парокаў і бесаў (аплот каторых – сям'я) на любой укус. «Крымінальныя любоўнікі» – у глаўных ралях Наташа і Жэрэмі па фаміліі РНЕ, уместа «аман» у названіе так і просіцца «анфан» (дзеці). Арыгінальная версія фінала ат абазрываццеля «Кайе дю Сінэма»: падросткі пагібают, хто ў ванне крові, хто ў карзіне для салата (?!). «Пад пяском» – пра «любоў зла», но как пранзіцельна-красіва, у том чысьле на склоне лет – невазможна паверыць, штоб такое мог сьняць здаровы жызьнярадасны еўрапеец 33-х лет ат роду.

«Каплі даждзя на раскалённых камнях» – па п'есе ядва савяршэнналетнява куміра-Фасбіндэра, так ні адным ціатрам і не пастаўленай.

Азон харош сабой, умніца, прафесіанал, эрудзіт, с 13 лет не выпускаў із рук дамашняй відзеакамяры, насьнімаў абойму сочных кароткамятраг, а патом, спансіруемы нейкім «гражданінам Японіі», прочна ўвашоў у разряд модных саўрыменных кінафігур. Рыжысёр удобен яшчо і цем, што яго фільмы, с адной стараны, весела і прыятна проста сматрэць, сьлядзя за паверхнаснымі сюжэтнымі лініямі, а с другой – есьць сьцімул пасарыўнавацца ў высасываніі із пальца скрываюшчыхся глубінных ідзей. Усе ізўрашчэнія дзяйствіцельна очынь эстэцічны, пашці благапрыстойны. Ня стоіт забываць, канешна: што французу клішэ – беларусам гыгыгы, і вясьці сібя нашы сіняфілы ў бальшом кіназале прывыклі так, как будта каждый сідзіт адзін дома перад відзюшнікам.

Прызадаваццелі, к Азону стабільна благасклонныя, – ясьцественна, сэкс-мяньшынства. Забаўна, што ў Беларусіі дзеяцелі гей-культуры пасьледнее ўрэмя ўсё большэ сімпацізіруюць... месным анархістам (хто канкрэтна надаваў ім для этава повадаў, я яшчо разбярусь). Не саўсем панятна такжэ, у чом іньцірэс для западных фандацёраў фінансіраваць татальную не дэлукашызацыю, но садамізацыю беларускай маладзёжы. Ну-ну, пасмотрым, што за Дрэўняя Грэцыя палучыцца, но пра эта как раз я пісаць ня буду: паласу і так ужэ ўдалось забіць, а за прарочыства ў Этай Стране ганарары павышаць не прынята (Helas, mon Soleil de Miel) ●

**Шырлі Бі Бэд,**
КІНААНАЛІЦІК, ЧЛЕН ЖУРЫ ТРАВЯСЬЦІ-КОНКУРСА

• • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • • •

калеку і пад покрывам ночы праз таемны ход вывела суайчыньніка з дварца.

Перасякаючы Каракумы на зьведзеным з эмірскіх стаень арабскім скакуне, пасол некалькі разоў бачыў голыя дзёсны Сьмерці, але адчуваньне таго, што ён робіць сваю Справу падтрымлівала Бадзягу.

Аднойчы раніцай да ханскага дастархану выйшаў стомлены стары ў абарванай вопратцы. Яго цела была змучаным і ў некаторых месцах зьнявечаным, але душа была ня зломленая. Справа вяла старога наперад.

Манголы са зьдзіўленьнем назіралі за чужынцам, калі той выцягнуў з глыбіні сваіх лахманоў нейкую брудную паперку, якая на самой справе зьяўлялася даверальнай граматай пасла ВКЛ, і працягнуў яе хану. Пасьля гэтага стары зваліўся з ног. У яго галаве лунала прыемная думка: «Я выканаў сваю місію!»*. На сочнай траўцы татара-мангольскага лужку шасьцідзесяцігадовы Язэп Бадзяга паміраў з усьмешкай на вуснах і адчуваньнем выкананай Справы. Ён ня ведаў, што хан не навучаны чытаць і выкарыстае даверальную грамату ў якасьці падціркі. Але, як бы там ні было, дыпляматычныя дачыненьні паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Залатой Ардой былі ўсталяваныя. І ўсё гэта дзякуючы пану Язэпу, сапраўднаму ліцьвіну.

*VIL.*

Малады патомак Бадзягі змоўк. Толькі чаўканьне й сёрбаньне напаўняла цішыню. Вытрымаўшы высакародную паўзу, пан Ст'анкевіч шматзначна зірнуў на Сьліву.

– Вось і мы, шаноўны палкоўнік, ня проста так бадзяемся зараз. Мы едзем па Справе, і калі будзем такімі ж настойлівымі, як Язэп Бадзяга, дык даб'емся посьпеху.

__Заданьні чытачам:__

1. Хлопчыкі і дзяўчынкі, адкажыце на пытаньне: Тэрыторыі якіх сучасных краінаў перасек у сваім падарожжы Язэп Бадзяга?

**Як сапраўдны дыплямат апошнюю думку Язэп падумаў па-татарску. Калі б ён мог размаўляць, то яна гучала б так: «Шабаш хадог!»*

# «Сам дурак!»




**Евгений Будинас, «Дураки», Москва, 2001, «Время» (620 с. 10000 накл.)**

«Вядомы савецкі пісьменьнік Яўген Будзінас» шчыра папярэджвае «разумных» – STOP. Памацаў добра зробленую вокладку – кінь «дурное». Але ж чытач справядліва захоча даведацца хто ж яны «Дураки», і палезе гартаць шэсьцьсот зь лішкам старонак якаснай паперы. На першай тытульнай старонцы зьмешчаная падназва – «История болезни». Чыёй хваробы робіцца зразумелым старонак празь пяцьдзясят. Аўтар Яўген Віктаравіч Будзінас за галоўнага героя ўзяў сябе роднага пад псэўданімам Віктар Яўгенавіч Дудзінскас (Будзінас стварыў пад Менскам фальварак «Дудуткі»). Які нармалёвы чалавек здольны наваляць 620 кніжных старонак пра сябе ў трэцяй асобе? «І тады Дудзінскас пайшоў, Дудзінскас падумаў, Дудзінскас сказаў...». Нават адзін зь герояў «Дураков» Шурык Лукашонак у рэальным жыцьці не на столькі сільна злоўжывае трэцяй асобай.

Героі «Дураков» пазнавальныя: Сымон Поздні, Віктар Сталяр, Вячаслаў Францавіч Капуста...

На першых ста старонках Будзінас распавядае гісторыю БССР ад 30 кастрычніка 1988 году да выбараў у Вярхоўны Савет у 1990 годзе. Паколькі прозьвішчы перакручаныя, замежнік ня ўрубіцца пра што гаворка. Калі паставіць рэальныя імёны, дык атрымаецца занудны пераказ усім вядомых фактаў.

Але якую цікавостку знайсьці можна. Праз сто старонак пачынаецца расповед пра часы Вячаслава Францавіча Кебіча. Будзінас распавядае як ён будаваў Дудуткі: «Дудинскас был хлебосольным». Да яго езьдзілі ўсе вядомыя дыпляматы, бізнэсоўцы й журналісты. Усіх Будзінас заве сваімі сябрамі. Вось што спадар пісацель распавядае пра журналістку газэты *Лица* Ірку Таліб, якая «отправилась к москвичам – на поиски такой знаменитости, с которой и самой перетрахнуться в кайф, и пикантных подробностей можно насобирать» (стр. 111).

Праз 366 старонак дабярэмся да 1995-га году, да разгону ВС 12-га скліканьня... У прынцыпе, з хваробай усё зразумела. Дыягназ – «брэд сумашэдшага».

Хацелася б паглядзець на таго чуда-багатыра, які сказ за сказам дачытае да канца. Хіба, калі «крыша паедзе». Тады на пачатку 600-х старонак прачытае апісаньне гісторыі зьнікненьня Віктара Ганчара. Следам, без аніякай увязкі – пра трагедыю на Нямізе. І адразу, на самым канцы – «дзьвінуты» чытач сустрэнецца з фантазіяй пра тое, як Шурык Лукашонак застаўся сам-адзін у кумпаніі з аўчаркай. Фініш. STOP.

Дык, а хто ж «Дураки»? Калісьці ў Лёндане некалькі прыкольшчыкаў разьвесілі па ўсім горадзе афішы: такога-та чысла, а такой-та гадзіне адбудзецца выстава аслоў. Народ сабраўся, пастаяў паўгадзінкі, паглядзеў адзін на аднаго, і... пабачыў аслоў.

Калі ў чытача застанецца хаця б кропля розуму, ён зразумее, што апынуўся сярод дзесяці тысячаў патэнцыйных дуракоў, якія купілі й прачыталі «праізьвядзеніе ізьвестнага савецкага пісацеля» Яўгенія Будзінаса ●

**Мар'ян Дурылка**

# Паўлічэнка і трудныя падросткі

Кіраўніку СОБРа Паўлічэнку даручана працаваць з трудными падросткамі

БЛАМ

БЛАМ

Вам прадпісана явіцца ў цэнтар работ з трудными падросткамі пад начальства сацыяльнага

У мяне ж белы білет

Прэзыдэнт назначыў мяне на новае месца службы. Буду рыхтаваць дастойную зьмену

Прыкалісь, Бівіс, мы будзем

Ы-ы, крута, крапавыя бэрэты

Слухайце сюды, галдэшы. Я зраблю з вас настаяшчых мужчын.

Здаецца, нас тут трахнуць.

Трахацца, крута, цэлкі

Пачаліся ўрокі мужнасьці

Батхэд, глядзі якія сіські

Дзе?

БАЦ!

Бівіс, ты прыдурак

А цяпер урок харчовай бясьпекі

ПИ-И-И-И-И

– Бівіс, па цягу, цяжкало ў вучэніі, лятко ў баю.

– Бой, крута. Многа кровi. А патом цэлкі, цэлкі...

Еш, сука

Патрэніруемся на кошках, як даведацца праўду

Ну што, жывёла, будзем гаварыць

Ці ў маячанку гуляць?

Вы прайшлі курс маладога байца. Цяпер сур'езнае заданьне

Трэба замачыць гэтага фраера

Бівіс, прыкалісь які лох

Нам такога замачыць як два пальцы

Цяпер мы па цягу эскадроны сьмерці

Мачыць, крута

Баклан, мы па цягу ў засадзе

Ы-ы, ачкасты. Даставай сваю пушку.

Дабро этаму дому, пайдзем к другому.

Прыкалісь елупень. Мы цяпа крапавыя бэрэты.

Мы крэпкія арэшкі, ы-ы

Мы атрымалі відэастужку з інтэрвію двух былых супрацоўнікаў эскадронаў сьмерті.

Так, мы гэта зрабілі

Мы замачылі гэтага старыкашку.

Бівіс, у нас па цягу новае заданьне

Крута